В. П. КРАСНЕЙ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
К78

Рэцэнзенты:

кафедра сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (канд. пед. навук дацэнт *С. М. Якуба*);
настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 190 г. Мінска» *А. Л. Семчанка*

## Умоўныя абазначэнні:

 — для засваення;

 — для азнаямлення;

 — адкажыце на пытанні;

 — практыкаванне або заданне павышанай цяжкасці;

 — дадатковае заданне ці заданне на паўтарэнне;

 — практыкаванне па развіцці мовы;

 — практыкаванне для дамашняга задання;

**зн** — значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку ў канцы падручніка;

**Рм** — заданне на развіццё маўлення

**ISBN 978-985-465-973-2 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-465-972-5**

# ПАЎТАРЭННЕ

**1.** Прачытайце. Вызначце тэму вершаваных радкоў.

Калі пагоркі запалаюць верасам
і ба́рвамі[зн] пазначацца лясы,
прыходзіць залаты руплівы верасень
і школу абуджаюць галасы.

*В. Лукша*



Чаму паэт называе верасень залатым і руплівым?

**2.** Прачытайце. Да каго звяртаецца паэт у сваім вершы, да чаго заклікае?

Мой таварыш! Час імчыцца!
Ад яго не адставай:
змалку ты любі вучыцца,
змалку веды здабывай!

Кім захочаш быць — тым будзеш
і, не знаючы тугі,
будзеш ты карысны людзям
і Радзіме дарагі.

*В. Жуковіч*



Пра што гаворыць аўтар у другім слупку верша?

**3.** Прачытайце. Які загаловак можна даць вершу?

Нам кніга — вечнае святло,
крыніца ведаў, цуд бясконцы!
Яна — дарадца, сябар чу́йны[зн] —
адкрые безліч таямніц,
дасць у палёт жывыя крылы,
навучыць радасна любіць
бацькоўскі край, адзіны, мілы.
І я жадаю ад душы:
сябруйце ўдзячна з ёй, натхнёна[зн].

*М. Пазнякоў*

● Якую цікавую кнігу вы прачыталі за час летніх канікулаў?

**4.** Прачытайце. Растлумачце знакі прыпынку ў канцы сказаў.

Ціхае журчанне кр..нічкі. Сумная м..лодыя в..сеньскага даж..у. С..нечная раніца і зімовы веч..р. Палі збаж..ны і блакітныя васількі. Духмяныя стагі на с..нажаці, бусел над галавою. Усё гэта ты, Беларусь! Беларусь — мая Радзіма! *(Газета «Раніца»).*

**во́сеньскі**

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.



**5.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Як вы разумееце сэнс апошняга сказа?

Радзіма — самае дарагое ў ж..цці ч..лавека. Без яе ты будзеш засмучаны і ў дні гора, і ў дні ра-

дасці. Без яе сір..той ты будзеш на све..е *(Паводле М. Танка)*.

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

**6.** Прачытайце тэкст. Вызначце, пра каго ці пра што гаворыцца ў кожным сказе.

Да возера прыкметна падкрадалася восень. На высокіх узгорках рыжэла ржышча. Узвышаліся плячыстыя стагі на паплава́х[зн]. Сіратлівы бусел стаяў на адной назе і глядзеў на поўдзень. Вада ў возеры пацямнела. Прырода паволі засынала *(П. Броўка)*.



Змест якіх сказаў адлюстроўвае малюнак?

Выпішыце гэтыя сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго ці пра што гаворыцца ў сказе.

**7.** Прачытайце тэкст. Вызначце, пра каго ці пра што гаворыцца ў кожным сказе і што аб гэтым гаворыцца.

Ідуць апошнія дні лета. З бяроз і ліп злятаюць першыя жоўтыя лісточкі. Збіраюцца ў вялікія чароды птушкі. Першымі ў далёкую дарогу адпраўляюцца стрыжы. Рыхтуюцца да адлёту і ластаўкі *(Паводле А. Курскова)*.

**8.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на сказы.

Над Жы́цькавам ляцелі ў вырай журавы яны спакойна махалі ў воблаках крыллем жураўліны клін то крыху звужаўся, то расшыраўся птушкі задумліва, крыху сумнавата курлыкалі каму гэта лёгка развітвацца з Радзімай *(Паводле Я. Сіпакова)*.

Спішыце. У канцы сказаў пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

**9.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

У бязмежным небе
роўненькім шнурочкам
жураўлі на вырай
мкнуцца над лясочкам.

І стаіш ты смутны,
доўга пазіраеш,
як бы нешта страціў,
а што — сам не знаеш.

*Я. Колас*



Пісьмова адкажыце на пытанні:

- Дзе і як ляцелі жураўлі?
- Якое пачуццё выклікае ў чалавека адлёт жураўлёў?



**10.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

В..лікае шчасце захаваць у сваім с..рцы пам..ць і любоў да р..дных м..сцін. Такі ч..лавек не здра-

дзіць Радзіме. Ён не пер..стане шанаваць блі..кіх яго с..рцу людзей. Ён будзе паважаць другія народы *(А. Пальчэўскі)*.

**11.** Прачытайце.

Рыба не можа жыць без вады. Будзем ахоўваць нашы блакітныя рэкі і азёры. Звеpу патрэбны лес. Будзем ахоўваць нашы цяністыя лясы. Птушцы патрэбны поле, луг, балота, сіняе неба. Будзем іх ахоўваць.

А чалавеку патрэбна Радзіма. І ахоўваць прыроду — значыць ахоўваць сваю Радзіму, сваю сінявокую Беларусь.

Выпішыце словы, якія абазначаюць прадметы. Пастаўце ў іх знакі націску.

**12.** Прачытайце.

Радзіма! Яна ў нас адна і заўсёды прыгожая. Прыгожая і ў асеннім чырвона-барвовым полымі лясоў! І ў студзеньскім снежным зіхатлівым раздоллі! І ў бу́йным веснавым фестывалі красак! І ў залатым разліве бяскрайніх збожжавых палеткаў!

Спішыце. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў. Пастаўце ў іх знакі націску.

**13.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Адцвіло, адзеленела, адспявала лета. Надыходзіць жоўтая восень. Залатым лісцем засцілаюць бярозы

дарожку. Сонца пасылае развітальныя промні на зямлю. У чырвань аздобіла[зн] яно цяжкія гронкі рабіны і каліны. На кустах вісяць тонкія ніткі павуціння. На іх іскрацца пацеркі-расінкі *(Паводле З. Бяспалага)*.

Выпішыце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

Назавіце мяккія зычныя гукі ў словах чацвёртага сказа і скажыце, якімі літарамі абазначаецца іх мяккасць.

**адцвіта́ць**

**14.** Прачытайце. Назавіце чацвёртае «лішняе» слова ў кожным радзе. Складзіце з гэтымі словамі сказы і запішыце іх.

Казка, мала**ц**ьба, лё**т**чык, салодкі.
Мужны, святы, свяціць, светлы.
Сінець, загадаць, загадка, здабываць.



Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары ў словах першага радка? Як правяраецца іх напісанне?



**15.** Прачытайце тэкст. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

На досвітку выйшлі ў паход.

Ідуць дзеці ву..кай лясной сце..кай. Кучаравыя бяро..кі, ні..кія ялінкі вітаюць юных падарожнікаў. Маладыя ду..кі, нібы вартавыя, стаяць на ўзле..ку. У глыбіні лесу — за́гара..ка[зн]. Там гадуецца статак аленяў *(Паводле В. Хомчанкі)*.

# ТЭКСТ

## Асноўная думка тэксту. Выказванне асноўнай думкі ў тэксце сказам, загалоўкам

**16.** Прачытайце. Якую важную думку выражае аўтар у тэксце? У якім сказе яна выказваецца?

Быў такі чалавек у нашым сяле — Захарка. Капаў у лесе дзічкі, у сады пераносіў, прышчэпліваў. Вельмі смачныя яблыкі, калі прышчэпліваць да лясных.

А потым стаў па лесе хадзіць. Дзе маладзенькую грушу ці яблыньку сустрэне — зрэжа, прышчэпіць. Знойдзеш цяпер такое дрэўца — як падарунак на свята.

Каторы ўжо год як няма Захаркі, а людзі ўсё дзякуюць чалавеку. Дабро — яно жывучае *(Паводле П. Місько)*.

Вызначце пачатак, асноўную і заключную часткі тэксту.

Пра што гаворыцца ў кожнай з гэтых частак?

Уважліва прачытайце тэкст яшчэ раз. Запішыце яго так, як запомнілі.



**Асноўная думка тэксту** — гэта тое галоўнае, што аўтар хоча паведаміць чытачу, што ён лічыць павучальным для чытача.

Асноўная думка можа быць выказана ў адным са сказаў тэксту або ў загалоўку.

**17.** Прачытайце. Якая асноўная думка тэксту? Ці выражае яе загаловак?

ПАКЛОН ЛЕСУ

Лета пакацілася на восень. Праз апалае лісце пачалі прабівацца крамя́ныя[зн] галоўкі баравікоў і падасінавікаў. Збіраюцца ў чародкі залатыя лісічкі. Збягаюцца ў падлесак белыя падбярозавікі. У роснай траўцы чырванеюць крохкія рыжыкі.

І цяпер адбівай лесу паклоны. А будзеш задзіраць угору нос — нічога не знойдзеш *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Спішыце асноўную частку тэксту. Падкрэсліце адной лініяй словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказе.

**18.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс загалоўка?

ГРЫБЫ ТАКСАМА ХОДЗЯЦЬ

Восень. Лес усыпаны залатымі манеткамі **бяроз** і чырвонымі **медалямі** асін. Яны хаваюць шэрыя, чырвоныя і жоўтыя шапачкі грыбоў.

— А белыя грыбы ёсць? — спытаў я ў маленькай дачкі лесніка.

— І яны ёсць. Але пачынае халадаць, і яны пераходзяць пад елкі.

— Як жа гэта яны пераходзяць?

— Дык яны ж ноччу ходзяць. Як я магу ноччу ўбачыць? Гэтага ніхто не бачыў *(М. Прышвін)*.

Спішыце першы абзац. Назавіце гукі ў выдзеленых словах.



Якія грыбы маюць шэрыя, якія — чырвоныя і якія — жоўтыя шапачкі?

**19.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту.

Над мухаморам тырчала сухая галінка, перашкаджала яму расці.

А нехта знарок растаптаў два мухаморы. Неразумны чалавек. Сапраўдны грыбнік не топча грыбы. Лесу ўсе грыбы патрэбны, без іх яму дрэнна жыць. А мухаморы — гэта лекі для лясных звяроў *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Спішыце тую частку тэксту, у якой аўтар выказвае павучальную для чытача думку.



Ці даводзілася вам збіраць грыбы? Як вы гэта рабілі?



**20.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Хто не быў па-сапраўднаму шчаслівы, калі вярта..ся з лесу з кош..кам грыбоў!

Пал..ванне на грыбы — прыемнае прав..дзенне часу, спорт, адпачынак. Гэта самыя цікавыя сустр..чы з жывой пр..родай. Гэта пазнаванне яе таямнічага св..ту *(Л. Кацкевіч)*.

**21.** Уважліва разгледзьце малюнкі. На якую яны тэму? Што адлюстравана на кожным з іх? Дайце хлопчыкам і дзяўчынцы імёны, а сабачку — клічку. Паводле кожнага малюнка складзіце сказы, каб атрымаўся тэкст пра юных грыбнікоў.







## Агульнае паняцце пра тыпы тэксту: апавяданне і апісанне

**22.** Прачытайце. Пра што расказваецца ў гэтым тэксце? Вызначце ў ім пачатак, асноўную і заключную часткі.

Аднойчы байцы праводзілі вучэнне на ўскрайку лесу. Была спёка. Вады паблізу не было.

Адзін баец узяў рыдлёўку і пачаў расчышчаць крынічку. Другі крынічку паглыбіў. Забурліла крынічка, напоўнілася да берагоў. Назаўтра байцы зрубілі зруб. Хтосьці з іх сплёў коўшык з бяросты і павесіў яго на суку алешыны.

Байцы праз тыдзень паехалі, а крыніца засталася. Добрую памяць пакінулі яны пра сябе *(Паводле В. Хомчанкі)*.



- Якое пытанне можна паставіць да гэтага тэксту: «Як гэта было?» ці «Якая крынічка?»?
- Адну ці некалькі ілюстрацый можна намаляваць да тэксту?

Спішыце асноўную частку тэксту.



Тэкст, у якім расказваецца пра якія-небудзь падзеі, учынкі ці здарэнні, называецца **апавяданнем.**

Да тэксту-апавядання можна паставіць пытанні «Як гэта было?», «Як гэта адбывалася?».

**23.** Прачытайце. Ці можна назваць гэты тэкст апавяданнем? Чаму?

Аднойчы Пеця з Колем злавілі двух вожыкаў.

Прайшло некалькі дзён. Сустрэліся хлопчыкі і заспрачаліся, хто больш свайго вожыка любіць. Пеця хваліўся, што корміць вожыка малаком, а ў хляве яму пасцель зрабіў са старога адзення.

— А ты што зрабіў для свайго вожыка? — спытаў ён у Колі.

— Я яго ў лес аднёс і выпусціў на волю, — адказаў Коля *(Паводле В. Асеевай)*.

Як вы думаеце, хто больш любіў свайго вожыка?



Пісьмова адкажыце на пытанні:
- Каго злавілі Пеця з Колем?
- Пра што заспрачаліся хлопчыкі?
- Чым хваліўся Пеця?
- Як паступіў з вожыкам Коля?

**24.** Прачытайце. Пра якую падзею расказваецца ў тэксце? Ці адпавядае парадак размяшчэння частак тэксту таму, як развіваліся падзеі?

Разведчыкі пада́лі сігнал. Прыбег іх любімы сабачка. Азіраючыся, ён падаўся ў глыб лесу. Партызаны пайшлі за ім. Хутка яны далучыліся да атрада.

Аднойчы разведчыкі пайшлі на важнае заданне. Па раптоўнай трывозе атрад перайшоў на новае

месца. Партызаны вярнуліся з **разведкі**, але на старым месцы атрада не засталі.

Так сабачка выратаваў разведчыкаў ад небяспекі *(Паводле Р. Няхая)*.

Спішыце тую частку тэксту, якая павінна быць яго пачаткам. Назавіце гукі і літары ў выдзеленым слове.



**25.** Прачытайце сказы. Размясціце іх так, каб атрымаўся тэкст. Вызначце яго тып. Запішыце першыя чатыры сказы.

Весела гулі ў школьнай майстэрні станкі.
Часам адчайваліся, але давялі справу да канца.
Юныя тэхнікі задумалі змайстраваць касілку.
Выйшла самаходная касілка на луг.
Хлапчукі рэзалі, свідравалі, шліфавалі, удакладнялі канструкцыю.
Пачаліся дні напружанай працы.

**26.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.



Чорны бусел. Галава, шыя, спіна і крылы — чорныя. Грудзі і жывот — белыя. Усё апярэнне іграе, пераліваецца ўсімі адценнямі цёмных колераў. Доўгая дзюба і ногі — чырвонай афарбоўкі.

У палёце, як і жураўлі, трымае шыю выцягнутай. А доўгія і шырокія крылы дазваляюць доўга лунаць у паветранай прасторы *(У. Бутарай)*.



Якое пытанне можна паставіць да гэтага тэксту: «Як гэта было?» ці «Які прадмет?»?



Тэкст, у якім апісваецца які-небудзь прадмет, чалавек, з'ява, называецца **апісаннем.**

Да тэксту-апісання можна паставіць пытанні «Які прадмет?», «Як ён выглядае?».

**27.** Прачытайце. Гэты тэкст з'яўляецца апавяданнем ці апісаннем? Чаму вы так думаеце?

АДНАКЛАСНІКІ

У Сашы цёмныя вочы і светлыя валасы з віхрамі на патыліцы. Днём вочы ў яго не цёмныя, а сінія, з блакітным адценнем. На носе вяснушкі, толькі яны маленькія.

У Веры нос курносы. Косы рыжаватыя з залатым адценнем. Адны пасмы святлейшыя, іншыя — цямнейшыя. Гэта яны летам на моры так выгараюць *(Паводле С. Баруздзіна)*.

Спішыце першы абзац. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў. З якой мэтай аўтар іх ужывае?

- Вусна дайце партрэтнае апісанне вашага сябра (сяброўкі).

**28.** Прачытайце. Вызначце тэму верша і яго тып.

У Савосева суседа
быў пярэсценькі каток.
Выхаванец Паўла-дзеда,
Такі слаўны пестунок!
Нос чарнявы,
хвост бялявы,
задзірасценькі.
Кіпцік-шчыпчык
заграбасценькі.
Лапкі-драпкі
машастовыя[зн],
а шарсціначкі шаўковыя.
Губкі, зубкі
адмысловыя.
Вусы-русы
патырчастыя.
Тая спінка,
як націнка,
выгінастая.

*Я. Колас*





- Якім вы ўяўляеце ката?
- Ці адпавядае малюнак таму апісанню, якое даў Я. Колас?
- Чаму пры апісанні ката паэт выкарыстаў толькі словы, якія абазначаюць прадмет і прымету прадмета?

Спішыце сказы са словамі, якія абазначаюць колер.

**29.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Чаму аўтар даў яму такую назву?

САРОКА



Села сарока на клён. Па галіне скача. А з дрэва насенне аблятае. Насенне ў клёна як парасонік з двума доўгімі крыльцамі. Падхопіць вецер такі верталёцік і панясе. І там, дзе ён апусціць яго на зямлю, з насення на наступны год вырасце маленькі клёнік.

Складзіце некалькі сказаў пра сароку, каб атрымаўся тэкст тыпу апісання.

**30.** Прачытайце. Да якога тыпу адносіцца гэты тэкст?

Глыбокай восенню я пайшоў у лес. Каля куста ядлоўцу заўважаю снежную гурбачку. Адкуль яна? Снег жа яшчэ не выпадаў.

Іду да куста. І тут «снежны камяк» заварухну..ся і імкліва панёсся борам. Аказваецца, гэта за..ц-б..ляк. Ён ужо зм..ніў светла-ш..рае футра на б..лае. А зіма недзе затрымалася. Можа, пабег насустрач зіме? *(Паводле І. Сіляўкі)*.

Спішыце другі абзац, устаўляючы прапушчаныя літары.

## Апорныя сказы ў тэксце

**31.** Прачытайце. Чаму тэкст мае такую назву? Колькі ў ім частак?

ВЯСКОВЫ ДУШ

Любачка любіць прымаць душ. У вёсцы, дзе жыве бабуля, няма душа.

Ноччу прайшоў дождж. Раніцай засвяціла сонейка. Прывяла бабуля Любачку да невялічкай зялёнай бярозкі. Лёгенька трасянула дрэўца. Халодныя кропелькі пасыпаліся на рукі, тварык.

Хораша стала дзяўчынцы. Заўсміхалася. Лепш, чым гарадскі, вясковы душ *(Ф. Рамашка)*.

Прачытайце сказы. З якіх яны частак тэксту?

1. Любачка любіць прымаць душ.
2. Халодныя кропелькі пасыпаліся на рукі, тварык.
3. Хораша стала дзяўчынцы.



Ці перадаюць гэтыя сказы асноўны змест тэксту?

- Вусна перакажыце тэкст паводле выпісаных сказаў.

гарадскí



Сказы, якія перадаюць асноўны змест частак тэксту, з'яўляюцца **апорнымі**.

**32.** Прачытайце. Дайце тэксту загаловак.

Іра выйшла на двор памыць бульбу. Раптам яна ўбачыла дым і агонь. Гарыць дом калгаснага механізатара. З хаты даносяцца крыкі дзяцей.

Іра пабегла ратаваць дзяцей. Тры разы кідалася яна ў палаючы дом. Дзяўчынка задыхалася ад дыму, але шукала дзяцей і выносіла іх на двор. З маленькай Аленкай выскачыла праз акно, бо шлях праз дзверы закрыў агонь.

За мужнасць і адвагу пры выратаванні дзяцей пяцікласніцу Ірыну Міранович узнагародзілі медалём «За адвагу на пажары». Заслужаная ўзнагарода *(Газета «Раніца»)*.



- Колькі частак у тэксце?
- Які сказ можна лічыць апорным у пачатку?
- Ці з'яўляецца апорным у асноўнай частцы трэці сказ?
- Які апорны сказ у заключнай частцы?

Запішыце апорныя сказы.

✷ **33.** Прачытайце тэкст. Вызначце пачатак, асноўную і заключную часткі.

Бацька прынёс Толіку жураўліка з падбітым крылом.

Толік зрабіў птушцы ў сенцах гняздо. Усю зіму хлопчык даглядаў жураўліка, бавіў з ім свой час. Крыло ў Журкі зажыло.

Вясною з выраю плыў шнурочак жураўлёў. Журка падскочыў, узмахнуў крыламі і паляцеў за журáўлямі *(Паводле М. Даніленкі)*.



Пісьмова адкажыце на пытанні:
- Каго бацька прынёс Толіку?
- Як даглядаў Толік Журку?
- Калі і куды паляцеў Журка?

**34.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

З дзяцінства я знаёмы з чорнымі бусламі. Іх гняздо было ў блізкім лесе на высокай макаўцы елкі.

Але аднойчы прыйшлі людзі з бензапіламі. Балюча было глядзець, як буслы кружылі над дзялянкамі спілаванага лесу.

І ўсё ж яны засталіся. Тут іх радзіма. Для гнязда недалёка ад вёскі буслы выбралі крону старога дуба *(Паводле С. Жураўлёва)*.

Прачытайце наступныя сказы і скажыце, змест якой часткі тэксту яны выражаюць. Ці можна лічыць іх апорнымі сказамі тэксту?

1. Знаёмы з чорнымі бусламі.
2. Людзі з бензапіламі.
3. Буслы застаюцца на радзіме.

Спішыце заключную частку тэксту.

**35.** Прачытайце. Якая асноўная думка тэксту?

ПРЫРОДА І ФАНТАЗІЯ

Дзеці — вялікія фантазёры, мастакі, творцы.

Хлопчыкам больш падабаецца л..сная скульптура. Яны майструюць з кары, ш..шак, каштанаў розныя фігуркі. Дзя..чынкам па душы кампазіц..і з кветак. У іх матэрыял — засушаныя лісты, п..лёсткі кветак, травінкі.

Бруіць творчасць. Ствараюцца розныя вобразы і карціны. Нараджаюцца творцы *(А. Сачанка)*.

Спішыце сказы, у якіх расказваецца пра творчасць хлопчыкаў і дзяўчынак. Устаўце прапушчаныя літары.

## План тэксту. Складанне плана тэксту

**36.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Дайце яму загаловак.

У нашай вёсцы што ні двор, то сад. І ў кожным растуць якімаўкі. Чаму іх так назвалі?

Жыў некалі ў вёсцы стары Якім. Быў у яго вялікі сад. Вясковых хлапчукоў ён частаваў смачнымі яблыкамі і прыгаворваў:

— Ешце, дзеткі, а семечкі вясной пасадзіце на сваім агародзе. Калі з’явяцца парасткі, мяне паклічце. Я прышчэпку зраблю. Праз колькі гадоў будуць у вас такія яблыкі.

Якім прышчэпліваў дрэўцы. І ў знак вялікай удзячнасці людзі назвалі яблыкі якімаўкамі *(Паводле М. Янчанкі)*.

Вызначце часткі тэксту.



- Пра што гаворыцца ў пачатку тэксту? Які загаловак можна даць гэтай частцы?
- Пра што гаворыцца ў асноўнай частцы тэксту? Дайце ёй загаловак.
- Пра што гаворыцца ў заключнай частцы? Які загаловак ёй можна даць?

Запішыце загалоўкі, пазначце іх лічбамі, і атрымаецца план тэксту.

Вусна перакажыце тэкст паводле складзенага плана.



План перадае змест і будову тэксту.

**37.** Прачытайце. Чаму тэкст мае такую назву?

### ІМЁНЫ НА ГРАНІЦЕ

Вёска хаваецца ў густых садах. Каля школы гранітны помнік.

Ідуць і ідуць людзі да помніка. Прыехалі туды і Янка з бацькам. Там пахаваны дзядуля Янкі. Ён быў партызанскім сувязным. Чытае Янка прозвішчы і раптам сваё імя прачытаў. «Дзядуля», — ціха шэпча хлопчык і адчувае, як слёзы закіпаюць у вачах.

— Вось тут, сынок, і пакладзём кветкі, — гаворыць бацька. І яны паклалі вяргіні, настуркі і бяссмертнікі да гранітнага помніка *(Паводле М. Даліленкі)*.

Прачытайце пытанні і вызначце, да якой часткі тэксту яны адносяцца.

1. Дзе стаіць помнік?
2. З якой мэтай прыехалі ў вёску Янка з бацькам?
3. Што ўсхвалявала Янку?
4. Як паступілі Янка з бацькам?

Ці можна лічыць гэтыя пытанні планам тэксту?

Пісьмова адкажыце на кожны пункт плана 1—2 сказамі.

**38.** Прачытайце. Якая асноўная думка тэксту?

СЫНЫ

Дзве жанчыны бралі ваду з калодзежа. Падышла да іх трэцяя. Дзядуля прысеў адпачыць на камень.

Гаворыць адна жанчына:

— Мой сынок лоўкі і дужы. Ніхто з ім не справіцца.

— А мой спявае, як салавей, — гаворыць другая.

— А ты пра свайго сына што скажаш? — пытаюцца ў трэцяй.

— Нічога ў ім асаблівага няма, — адказвае жанчына.

Набралі яны вады і пайшлі. І дзядок за імі. Раптам выбеглі тры хлопчыкі. Адзін праз галаву куляецца. Другі спявае. А трэці падбег да маці, узяў у яе вядро і панёс.

— Якія нашы сыны? — пытаюцца ў дзядулі.

— А дзе ж яны? Я толькі аднаго сына бачу! — адказаў дзядуля *(Паводле В. Асеевай)*.



- Чаму дзядуля сказаў, што ён бачыць толькі аднаго сына?
- Як вы дапамагаеце сваім бацькам?

Вызначце, ці адпавядае прыведзены план зместу і будове тэксту.

План

1. Тры хлопчыкі.
2. Жанчыны і дзядок.
3. Толькі адзін сын.
4. Размова жанчын пра сыноў.

Складзіце свой варыянт плана. Вусна перакажыце тэкст паводле вашага плана.



**39.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

## УНАЧЫ ПАД СОНЦАМ

Дзесяць гадзін вечара. Але Алёша і ўсе дзе..і гэтага запалярнага гара..ка не спалі. І сонца не заходзіла. Усю ноч яно ні..ка будзе плысці над

сопкамі[зн]. А раніцай пачне падымацца ўгору. Так і абыходзіць усё неба па крузе *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Спішыце 4 сказы, устаўляючы прапушчаныя літары.

Рм **40.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Які загаловак можна яму даць?

Коля, Галя і Кастусь ішлі са школы. Дзеці ўжо хацелі перайсці шашу, як убачылі на аўтобусным прыпынку жанчыну з дзіцем на руках. На зямлі стаялі вялікі чамадан і сетка з пакункамі.

Жанчына ехала ў вёску да бацькоў. Яе ніхто не сустрэў, а апошні аўтобус ужо пайшоў.

Школьнікі вырашылі дапамагчы жанчыне. Хлопчыкі знайшлі кій, падсунулі пад ручку чамадана. Галя ўзяла сетку, і ўсе пайшлі ў вёску.

Жанчына павесялела, усміхнулася і сказала: «Свет не без добрых людзей. Скора будзем у бабулі і дзядулі» *(Паводле П. Рунца)*.

Пастаўце да кожнай асобнай часткі тэксту пытанне і запішыце яго як пункт плана (карыстайцеся памяткай на форзацы «Як скласці план тэксту»).

Прачытайце тэкст яшчэ раз і напішыце падрабязны пераказ паводле складзенага плана.

# СКАЗ

## Падзел сказаў паводле мэты выказвання: апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы

**41.** Прачытайце сказы.

1. Знаёмай сцяжынкай ідзе вучаніца *(В. Жуковіч)*. 2. Змалку гонар свой шануй *(В. Жуковіч)*. 3. Ці ёсць дзе на свеце куток прыгажэйшы, чым наша зямля? *(С. Басуматрава)*.



- У якім сказе заключаецца пытанне?
- У якім сказе выражаецца парада?
- У якім сказе заключаецца паведамленне?



Кожны сказ ствараецца і выказваецца з пэўнай мэтай.

Па мэце выказвання сказы бываюць апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя.

У **апавядальным** сказе пра што-небудзь паведамляецца: *Хораша на сэрцы ад ціхай, задушэўнай песні.*

У **пытальным** сказе заключаецца пытанне: *Як ты працуеш, як жывеш?* (Я. Колас).

У **пабуджальным** сказе выражаецца пабуджэнне да дзеяння, парада, просьба, прапанова, загад ці пажаданне: *Народу верны будзь свайму!* (А. Бялевіч).

**42.** Прачытайце. Вызначце, колькі сказаў у гэтых радках. Якія яны па мэце выказвання?

Хто ў белым свеце я
я — беларус
будзьце знаёмы са мною
*В. Жуковіч*

Спішыце. У канцы сказаў пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

**43.** Прачытайце сказы. Вызначце іх віды па мэце выказвання.

1. На разгалістым дубе мільёнамі самацветаў гарэлі сняжынкі. 2. Школьны двор абсаджаны дрэвамі. 3. Кацярына дапамагае сваім бацькам. 4. Ордэн і медаль упрыгожвалі грудзі байца. 5. Давайце дружна песню звонкую спяём *(З. Бядуля)*.

Выпішыце пабуджальны сказ. Другі і трэці сказы запішыце як пытальныя.

**самацвéты**

**44.** Выразна прачытайце тэкст. Знайдзіце пабуджальныя сказы.

Алег прыйшоў з садзіка і просіць сястрычку:
— Прачытай, Алёнка, мне казку.
— Я рыхтую ўрокі. Не прыставай ты да мяне. Пагуляй са сваімі цацкамі.

Алег пакрыўдзіўся і адышоў ад стала.

— Не гневайся на мяне, калі ласка. Праз паўгадзіны я табе пачытаю казку.

Выпішыце пабуджальныя сказы, якія выражаюць просьбу.

**45.** Прачытайце. Якія віды сказаў па мэце выказвання выкарыстаў аўтар? Як бы вы гэта растлумачылі?

ЛІСА І ЗАЯЦ

— Чаму гэта, Заінька, у цябе такія доўгія вушкі Чаму гэта, шэранькі, у цябе такія хуткія ножкі

— А ўсё таму, Лісанька, што вельмі ж у цябе ціхія ножкі Таму, што ў цябе вельмі ж вострыя зубкі *(М. Сладкоў)*.

Спішыце пытальныя сказы і пастаўце адпаведны знак прыпынку ў канцы.



**46.** Прачытайце. Чаму ўсе сказы ў гэтым тэксце апавядальныя?

Пал..целі ў вырай ласта..кі, буслы і шпакі. **Ланцу..кі** жура..лёў віднеліся ў небе. Адтуль чулася сумнае курлыканне. Сады атрасалі пажо..клае ліс..е. Адзінокія, самотныя[зн] **бяро..кі** жаў..елі між зелені сосен *(А. Чарнышэвіч)*.

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Да выдзеленых слоў запішыце ў дужках праверачныя словы.

## Інтанацыя сказаў

**47.** Прачытайце смяшынку.

— Скажы, Пятрок, адкуль рака Бярэзіна бярэ выток?

Пятрок, падумаўшы, сказаў:

— Я знаю. Яна цячэ з бярозавага гаю.

Выпішыце пытальны сказ. Прачытайце яго з павышэннем голасу на тым слове, якое абазначае, пра што пытаюцца.

**48.** Прачытайце. Вызначце віды сказаў паводле мэты выказвання.

Ты куды бяжыш, рака,
у высокіх берагах?
За гару хавацца?
Пастой, пачакай —
я прыйшла купацца.

*С. Марчанка*

Выпішыце пабуджальны сказ. Прачытайце яго з павышэннем голасу на словах, якія выражаюць просьбу.

**49.** Прачытайце ўрывак з верша П. Панчанкі.

Восень, жоўтым крылом не махай,
не ўзляцець табе ўслед за зязюлямі.
Я прыйшоў у рабінавы гай,
гай мой ціхі, зажу́раны[зн].

Выпішыце апавядальны сказ. Прачытайце яго з паніжэннем голасу ў канцы сказа.



**Інтанацыя** — гэта павышэнне ці паніжэнне голасу пры чытанні ці ў час размовы.

Апавядальныя сказы вымаўляюцца з паніжэннем голасу ў канцы сказа.

Пытальныя сказы вымаўляюцца з павышэннем голасу на слове, якое паказвае, пра што пытаюцца.

Пабуджальныя сказы вымаўляюцца з павышэннем голасу на словах, якія выражаюць просьбу, загад, пажаданне, заклік.

**50.** Прачытайце. Вызначце віды сказаў па мэце выказвання.

1. Наступіла «бабіна лета» Хіба ўжо наступіла «бабіна лета»

2. Ягады арабін гараць чырвоным агнём Гэта ягады арабін гараць чырвоным агнём Няўжо гэта ягады арабін гараць чырвоным агнём.

3. Птушкі адляцелі ў вырай Ці птушкі ўжо адляцелі ў вырай.



Як вы разумееце выраз «бабіна лета»?

Спішыце. Пастаўце ў канцы сказаў адпаведныя знакі прыпынку.



**51.** Прачытайце акразага́дку[зн].

Бор з..лёны і густы,
А ў бары растуць кусты
Разгарні іх пакрысе,
Агл..дай куточкі ўсе
Вунь схава..ся я ў траве
І кажу: «Пайду к табе —
Кош..к маеш пры сабе»

*У. Мацвеенка*

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары, а ў канцы сказаў пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

## Падзел сказаў паводле інтанацыі. Клічныя сказы. Інтанацыя клічных сказаў

**52.** Прачытайце сказы так, як паказваюць знакі прыпынку.

Пустэльная душа ў таго, хто кідае хлеб пад ногі.

Пустэльная душа ў таго, хто кідае хлеб пад ногі!



- Якая думка выражана ў гэтых сказах?
- Ці аднолькавыя яны па мэце выказвання?
- Які сказ вы прачыталі з моцным пачуццём абурэння? Які знак ставіцца ў канцы такога сказа?

Запішыце другі сказ.

**53.** Прачытайце. Як бы вы адказалі на пытанне, якое заключаецца ў гэтым сказе?

Як гэта жыць на свеце, каб па-сапраўднаму жыць?

Як гэта жыць на свеце, каб па-сапраўднаму жыць?!



- Які сказ вы прачыталі з моцным пачуццём?
- Якія знакі ставяцца ў канцы такога сказа?

Запішыце другі сказ.

**54.** Прачытайце. Якая думка выражана ў гэтых сказах?

Шануйце, як святыню, роднае слова.
Шануйце, як святыню, роднае слова!



- Якія гэта сказы па мэце выказвання?
- Які сказ вымаўляецца з моцным пачуццём заклiку?
- Які знак ставіцца ў канцы такога сказа?



Сказы, у якіх выражаецца заклік або моцнае пачуццё радасці, захаплення, гонару, здзіўлення, называюцца **клічнымі**.

Клічнымі могуць быць і апавядальныя, і пытальныя, і пабуджальныя сказы: *Прыгожы асенні лес! Гэта Юля іграла?! Квітней, родная Беларусь!*

У канцы клічных апавядальных і пабуджальных сказаў ставіцца клічнік, а ў канцы клічных пытальных — пытальнік і клічнік.

**55.** Прачытайце. Вызначце віды сказаў паводле мэты выказвання.

**1. Мы пойдзем у музей. 2. Гэта Кацюшын малюнак? 3. Пасадзіце, дзеці, рабінку.**

Запішыце гэтыя сказы як клічныя.

**56.** Прачытайце тэкст. Перадайце голасам інтанацыю сказаў. Якія знакі прыпынку вы паставіце ў канцы сказаў?

**Я ішоў сцяжынкаю Яна звівалася між елак і сосен, асін і бяроз Лес нечакана расступіўся, і перад вачыма паўстала паляна Я міжволі залюбаваўся ёю Якое разнатра́ўе[зн] Якія фарбы Якія колеры Колькі пчол і чмялёў снуе́[сн] між кветак Як зачараваны глядзеў я на той цуд, на тое хараство** ***(Паводле Я. Пархуты).***

Выпішыце клічныя сказы.



**57.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

**Дзе яшчэ можна знайсці такую разнастайную прыроду, як у нас, у Беларусі Такія багатыя на рыбу рэкі і азёры А колькі птушак А зубры, ласі, казулі Хіба пералічыш усё, чым багаты наш край** ***(У. Ляўданскі).***

Спішыце. Пастаўце адпаведныя знакі прыпынку ў канцы сказаў.

**58.** Прачытайце. Перадайце голасам інтанацыю сказаў. Да якіх відаў сказаў паводле мэты выказвання яны адносяцца?

Птушкі, рыбы і звяры ў душы людзям глядзяць. Вы іх шкадуйце, людзі. Не забівайце іх! Бо неба без птушак — не неба! А мора без рыбы — не мора! І зямля без звяроў — не зямля! *(Р. Раждзественскі)*.

Спішыце апавядальныя сказы.

**59.** Замяніце апавядальныя сказы на пытальныя і клічныя. Запішыце пытальныя і клічныя сказы.

У з о р. *Да нас прыйшлі госці. Да нас прыйшлі госці? Да нас прыйшлі госці!*

1. Ніна іграе на цымбалах. 2. Ты ідзеш у цырк. 3. Хлопцы робяць кармушку.

Прачытайце запісаныя сказы. Ці з аднолькавай інтанацыяй яны вымаўляюцца?

**60.** Прачытайце смяшынку. Растлумачце знакі прыпынку ў канцы сказаў.

— Вы добра ведаеце птушак?
— Я ведаю птушак выдатна!



— Скажыце, калі ласка, якая з гэтых дзвюх птушак шчыгол, а якая чыж?

— А вось тая, што сядзіць побач з чыжом, і ёсць шчыгол.

● Якія ветлівыя словы вы ведаеце? Вусна складзіце з імі сказы.

**61.** Прачытайце словы. Складзіце сказы. Запішыце іх і ў канцы пастаўце адпаведныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

кастрычнік — восені, гаспадар, залатой
пазалотай, лес, жоўтай, гарыць
ён, прыгожы, які
цудоўныя, восені, якія, фарбы
а, лесе, у, залатым, вы, былі
лес, наведайце, асенні, за, паназірайце, прыродай



**62.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Якая тады ажына ўрадзіла На дзіва ўсяму свету Дачуліся мы пра гэта і паехалі ў лес Адразу натрапілі на ягады Сузор'ямі яны звісалі з гнуткіх галін Набралі мы поўныя карзіны

Спішыце і ў канцы сказаў пастаўце адпаведныя знакі прыпынку.

## Агульнае паняцце
## пра галоўныя члены сказа

**63.** Прачытайце сказы.

1. Адспявалі птушкі. 2. Апусцелі палі. 3. Пацішэлі лясы. 4. Уладарыць восень.

У кожным сказе вызначце слова, якое абазначае, пра каго ці пра што гаворыцца ў ім.

Пастаўце да гэтага слова пытанне к т о? або ш т о?



Слова, якое абазначае, пра каго ці пра што гаворыцца ў сказе, называецца **дзейнікам.** Дзейнік адказвае на пытанне к т о? або ш т о?

(К т о?) *Сініцы прыляцелі.*

(Ш т о?) *Журавіны даспяваюць.*

Дзейнік падкрэсліваецца адной прамой лініяй.

**64.** Прыдумайце сказы, каб дзейнікамі ў іх былі словы:

бярозка, самалёт, інжынер.

**65.** Прачытайце. Вызначце тэму верша.

Адшумела лета
роснымі лугамі

апусцела поле
нівы адцвілі
праплываюць хмары
ні..ка над з..млёю
і ляцяць у вырай
з крыкам жураўлі

*С. Грахоўскі*

Спішыце, падзяляючы тэкст на сказы. Устаўце прапушчаныя літары. У кожным сказе падкрэсліце дзейнік.

Прачытайце сказы без дзейніка. Ці можна вызначыць, пра што гаворыцца ў сказе, без дзейніка?



**Дзейнік — галоўны член сказа.**

**66.** Складзіце са слоў сказы. Запішыце іх. Падкрэсліце ў кожным сказе дзейнік. Зверху напішыце пытанне, на якое ён адказвае.

бярозы, лісцікі, ляжаць, жоўтыя, на, траве
ляціць, над, рэдкае, палямі, павуцінне
журботным, сонца, святлом, свеціць
буслы, у, вырай, самотныя[зн], адлятаюць
барваю, дубы, прыбраў, кастрычнік, і, рабінкі



Ці ўтвараюць гэтыя сказы тэкст?

**67.** Уважліва разгледзьце малюнак. Скажыце, што на ім адлюстравана.



Паводле малюнка складзіце і запішыце некалькі сказаў. Падкрэсліце ў іх дзейнікі.



**68.** Прачытайце. Спішыце тэкст і падкрэсліце ў кожным сказе дзейнік.

НАШЫ ПАМОЧНІКІ — АЎТАМАТЫ

Аўтаматы сочаць за рухам цягнікоў. На хлебазаводзе машыны пякуць хлеб. Прыборы кіруюць аўтаматычнымі лініямі на заводах. На фермах аўтаматы раздаюць корм жывёлам. Чалавек толькі націскае на кнопкі.

**69.** Прачытайце. Якая асноўная думка тэксту?

Галубок буркуе.
Зязюля кукуе.
Сарока стракоча.
А бацян клякоча.
Усе птушкі мову маюць,
мовай роднай размаўляюць,
мілагучнаю, сваёй, —
гэтак, як і мы з табой.

*В. Жуковіч*

Спішыце першыя 4 сказы. Знайдзіце і падкрэсліце ў іх дзейнікі.

У кожным сказе назавіце слова, якое абазначае тое, што гаворыцца пра дзейнік. Падкрэсліце яго дзвюма прамымі лініямі.



Слова, якое абазначае, што гаворыцца пра дзейнік, называецца **выказнікам.**

Выказнік адказвае на пытанні ш т о р о б і ц ь? ш т о р о б я ц ь? ш т о р а б і ў? ш т о р а б і л і? ш т о б у д з е р а б і ц ь? і іншыя падобныя пытанні.

*Лебедзь* (ш т о р о б і ц ь?) *плыве*. *Дрэвы* (ш т о р о б я ц ь?) *шумяць*.

Выказнік падкрэсліваецца дзвюма прамымі лініямі.

**70.** Прачытайце словы. Складзіце з іх 4 сказы з двух слоў. Запішыце паводле ўзору.

Узор. *Хлопцы* (што рабілі?) *гулялі.* *Самалёт* (што робіць?) *ляціць.*

Вучні, урок, званок, настаўнік.
Увайшоў, празвінеў, супакоіліся, пачаўся.

**71.** Прачытайце.

Вочы свецяцца добрым даверам.
Дзеці вераць так шчыра ўсім:
чалавеку, і дрэву, і зверу,
тэлефільмам і кнігам сваім.

*П. Панчанка*

Спішыце. Падкрэсліце выказнікі.

Прачытайце сказы без выказнікаў. Ці выражаюць яны закончаную думку без выказніка?



**Выказнік — галоўны член сказа.**

**72.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы патрэбныя словы.

Яўцей не ... ў хату. Ён стаіць і ... пах каліны. Каліну ... Насця для бацькі. Урачы ... яму піць адвар з каліны. На другім годзе каліна ... .

Увесну яна ... ў квецень. Вяскоўцы ... каліну Насцінай.

Для даведкі: *зацвіла, называюць, спяшаецца, раілі, пасадзіла, убіралася, удыхае.*



Якім членам сказа з'яўляюцца ўстаўленыя словы?



**73.** Прачытайце. Які загаловак можна даць гэтаму тэксту?

Ляснік ачышчаў лес ад галля. Хлопцы церабілі тоўстыя галіны на дровы. Стукалі сякеры. Шамацела сасновае голле.

На другі дзень ляснік папрасіў у калгасе каня. Да вечара юныя лесаводы развозілі дровы старым людзям вёскі *(Паводле П. Рунца)*.

Спішыце. Падкрэсліце ў кожным сказе выказнік.

## Дзейнік і выказнік як аснова сказа

**74.** Прачытайце. Назавіце ў кожным сказе дзейнік і выказнік.

Людзі называюць Беларусь лясным і азёрным краем. Дрымучыя лясы цягнуцца на многія кіламетры. Лес радуе сваёй прыгажосцю ў любую пару года. Вясной у ім зацвітаюць блакітныя пралескі. Улетку лес поўніцца хорам птушыных галасоў.

Увосень лес адорвае шчодрымі дарамі. Зімой зачароўваюць зялёныя елкі.

Выпішыце з кожнага сказа дзейнік і выказнік. Ці выражаюць яны думку сказа?

Прачытайце сказы без дзейнікаў і выказнікаў. Ці выражаюць яны якую-небудзь думку?



**Дзейнік і выказнік утвараюць аснову сказа. Яны выражаюць яго асноўную думку.**

**75.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце ў кожным сказе дзейнік і выказнік.

Ясік закінуў вудачку. Хлопчык пільна сочыць за паплаўком. Узыходзіць сонца. Ад яго промняў пазалацілася рака. Павявае лёгкі ветрык. Час ад часу ўсплёсне неспакойная рыба. Цешыцца сэрца юнага рыбака.

**павява́ць**

**76.** Прачытайце сказы. Запішыце іх паводле ўзору. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

У з о р. (Х т о?) *Міколка* (ш т о р а б і ў?) *любіў* *лес*.

Старэнькая бабуля жыве ў вёсцы адна. Суседскія дзеці часта дапамагаюць ёй. Хлопцы сякуць дровы. Дзяўчаты прыбіраюць у хаце.

**77.** Разгледзьце малюнак. Складзіце паводле малюнка некалькі сказаў на тэму «Аднойчы летам».





**78.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

На завод паступаюць цукровыя буракі. Спачатку моцны струмень вады прамывае іх. Затым машыны крышаць буракі на палоскі. Палоскі аддаюць свой салодкі сок. Аўтаматы выпарваюць з соку ваду. Сок пераходзіць у сіроп. Аўтаматы з сіропу вырабляюць цукар.

Спішыце першыя 5 сказаў і падкрэсліце галоўныя члены сказа.

## Вызначэнне асновы сказа

**79.** Прачытайце тэкст.

Асыпалася лісце з бяроз і клёнаў. Чырвоныя ягады арабін палымнéюць[зн] на сонцы. З неба даносіцца развітальнае курлыканне жураваў. Пакідаюць птушкі родныя мясціны да наступнай вясны.

З кожнага сказа выпішыце ў адзін слупок словы, да якіх можна паставіць пытанне «Пра каго ці пра што гаворыцца ў сказе?».

У другі слупок выпішыце словы, да якіх можна паставіць пытанне «Што пра гэта гаворыцца?».



Ці з'яўляюцца гэтыя словы асновай сказа?



**Як вызначыць аснову сказа**

Каб вызначыць аснову сказа, разважай так.

Спачатку стаўлю пытанне «Пра каго ці пра што гаворыцца ў сказе?» і знаходжу дзейнік.

Затым стаўлю пытанне «Што пра гэта гаворыцца?» і знаходжу выказнік.

Напрыклад: *Каля лесу бегла ліска.*

Пра каго гаворыцца ў сказе? У сказе гаворыцца пра ліску. (Х т о?) *ліска* — дзейнік.

Што гаворыцца пра ліску? Што яна бегла. *Ліска* (ш т о р а б і л а?) *бегла* — выказнік.

*Ліска бегла* — аснова сказа.

**80.** Прачытайце. У кожным сказе вызначце аснову. Выпішыце яе паводле ўзору.

У з о р: (х т о?) *доктар* (ш т о р о б і ц ь?) *лечыць.*

Заружавелі на ўсходзе лёгкія воблакі. Старшыня пайшоў у бок калгаснага двара. На ферме ўжо гаспадараць даяркі. Каля трактара завіхаецца малады хлопец. У гаражы шафёр рыхтуе машыну ў рэйс.

**81.** Прачытайце верш. Колькі ў ім сказаў? Спішыце і пастаўце ў канцы сказаў адпаведныя знакі прыпынку.

Знаёмай сцяжынкай
ідзе вучаніца
ёй сонейка свеціць
ёй ззяюць крыніцы
ёй дрэвы гамоняць
ідзе вучаніца
ў ведаў краіну,
у свет таямніцаў.

*В. Жуковіч*

Падкрэсліце аснову кожнага сказа.

**82.** Прачытайце словы. Ці з'яўляюцца яны сказамі? Прыдумайце з імі сказы. Запішыце іх і падкрэсліце асновы.

Летам да бабулі, унучка па гаспадарцы, дзяўчына агарод, у вольны час, на наступнае лета.



**83.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Кожны чалавек пам..тае сваю першую сустр..чу з кнігай. Для адных гэта была дзі..ячая ка..ка. Для хлопчыкаў першым было апавяданне пра г..роя вайны. Многім запалі ў душу вершы аб роднай прыро..е.

У памяці беларусаў вечна будзе жыць першая друкаваная кніга «Псалтыр». Яе надрукаваў у 1517 годзе сын беларускага народа Францыск Скарына. Па гэтай кнізе вучыліся грамаце.

Спішыце першы абзац, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце дзейнік і выказнік у першым і апошнім сказах.

## Пашырэнне асновы сказа іншымі словамі

**84.** Прачытайце сказы. Чым яны адрозніваюцца?

Скачуць сініцы.
Скачуць шустрыя сініцы.
На рабіне скачуць шустрыя сініцы.

Спішыце. Падкрэсліце аснову ў кожным сказе.



- Ці аднолькавая яна ва ўсіх сказах?
- Якое слова паясняе дзейнік і на якое пытанне адказвае?
- Якое слова паясняе выказнік і на якое пытанне адказвае?

Падкрэсліце словы, якія паясняюць асновы сказаў.

**85.** Прачытайце. Дапоўніце кожны сказ словамі, якія пашыраюць яго аснову.

1. Паплылі хмары. 2. Лес зашумеў. 3. Паказаўся месяц.

Для даведкі: *стары, працяжна; з-за лесу, залатарогі; нізка, снегавыя.*

Запішыце атрыманыя сказы. Падкрэсліце ў кожным з іх аснову. Стрэлачкамі і пытаннямі абазначце сувязь іншых слоў з асновай.

к а л і? д а к а г о?

У з о р. *Восенню птушкі прылятаюць да людзей.*

**86.** Прачытайце. Дапоўніце сказы ў адпаведнасці з пытаннямі іншымі словамі. Пры спісванні ўпішыце іх замест кропак.

САШАЎ МАЛЮНАК

Саша навучыўся маляваць (ш т о?) ... . Дзеці абступілі (к а г о?) ... . Забегалі (п а ч ы м?) ... (я к і я?) ... алоўкі. Вось і клён (з я к і м і?) ... лістамі. Некаторыя лісты адарваліся і падаюць (н а ш т о?) ... . Дзеці з захапленнем глядзелі (н а ч ы й?) ... малюнак.

Для даведкі: *восень, Сашаў, каляровыя, па паперы, на зямлю, хлопчыка, чырвонымі.*

**87.** Прачытайце. На кожнае пытанне напішыце поўны адказ. Падкрэсліце словы, якія пашыраюць аснову кожнага сказа.

Што бачыць чалавек з заплюшчанымі вачыма?
На якую вішню садзіцца шпак пасля дажджу?
Якую птушку людзі называюць лясным доктарам?
Які жураўель ніколі не лётае?
Якімі іголкамі швачка ніколі не шые?



**88.** Прачытайце. У кожным сказе знайдзіце яго аснову. Запішыце паводле ўзору.

У з о р: *расліна* ⇄ *адзываецца.* (што робіць? → ; ← што?)

Расліна чуйна адзываецца на музыку. Людзі даўно прыкмецілі гэтую з'яву. Пад класічную музыку расліны хутчэй растуць. Ад джазавай музыкі кветкі адхіляюцца ў супрацьлеглы бок. Расліны быццам хаваюцца ад барабаннага рытму і рок-музыкі. Вучоныя вывучаюць уздзеянне музыкі на расліны ў цяпліцах і садах *(Каляндар «Родны край»)*.



Якую музыку вы любіце? Чаму?

## Агульнае паняцце пра даданыя члены сказа

**89.** Прачытайце сказы. Чым яны адрозніваюцца? Якія словы дапамаглі вам даведацца, што і дзе зайграў баяніст?

Баяніст зайграў.
Баяніст зайграў песню.
Баяніст зайграў забытую песню.
У вёсцы малады баяніст зайграў забытую песню.

Запішыце сказы. Падкрэсліце галоўныя члены сказа.



Акрамя дзейніка і выказніка, у сказе могуць быць іншыя словы.

Іншыя словы ў сказе, якія адказваюць на якія-небудзь пытанні, з'яўляюцца **даданымі членамі сказа.**

(Я к і я?) *Адважныя людзі асвойваюць* (ш т о?) *космас*.

**90.** Прачытайце словы. Складзіце з іх сказы і запішыце.

прыёмнік, уключыла, Надзея
абазваліся, і, запелі струны, тонка
паліўся, суровы, і, голас, адначасова, журботны
пра, поле, спяваў, роднае, мужчына
у, песні, любоў, гучала, да, зямлі, роднай
гэта, Надзею, чалавечая, споведзь, кранула

Падкрэсліце ў кожным сказе галоўныя члены. Назавіце даданыя члены сказа.

**91.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце дадзеныя члены сказа.

**Дзеці чытаюць розныя кнігі. Косцік захапляецца таямніцамі космасу. Хлопчык чытае кнігу «Зоры — побач». Санька цікавіцца гісторыяй Беларусі.**

**92.** Разгледзьце малюнак. Скажыце, што на ім адлюстравана.




Складзіце некалькі сказаў на тэму «Школьная бібліятэка». Падкрэсліце ў іх дадзеныя члены сказа.



**93.** Прачытайце. Дапоўніце сказы дадзенымі членамі. Ці можна сказаць, што дадзеныя члены сказа дапамагаюць дакладней выказаць думку?

1. Пагаслі фарбы. 2. Плывуць хмары. 3. Імжыць дождж. 4. Замірае жыццё. 5. Чуваць галасы.

Для даведкі: *лета, апошнія; над, нізкія, зямлёю; дробны; лясных насельнікаў; птушак, рэдка.*

## Словы ў сказе, якія звязаны з дзейнікам

**94.** Прачытайце. Назавіце ў кожным сказе галоўныя члены. Вызначце, з якім галоўным членам звязаны па сэнсе дадзены член. Вусна пастаўце да яго пытанне.

Гаснуць восеньскія фарбы. Плывуць нізкія хмары. Імжыць надакучлівы дождж. Адляцелі пералётныя птушкі. Падзьмуў паўночны вецер. Прыйшлі першыя замаразкі.

**95.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Вызначце ў кожным сказе дзейнік і звязаны з ім дадзены член сказа.

1. Чырвоны пеўнік па жэрдачцы скача.
2. Пад ёлкамі ляжыць клубок з іголкамі.
3. Тоўсты качан лезе праз паркан.
4. Румяны Піліп да палкі прыліп.

Спішыце. Абазначце стрэлачкай і пытаннем сувязь даданага члена з дзейнікам.

я к і я?

У з о р. *Ападаюць апошнія лісточкі.*

**96.** Прачытайце. Назавіце ў кожным сказе дзейнік і дададзены член, звязаны з ім па сэнсе.

Свечкамі адгарэлі познія кветкі. Патух лісцевы пажар. Зніклі апошнія чароды гусей. Цяжкія воблакі даўно закрэслілі ў небе жураўліныя сляды. Ідзе восеньскай дарогай шэравокі лістапад.

Выпішыце дзейнік разам з даданым членам сказа.

У з о р: *кветкі* (я к і я?) *познія*.

**✷ 97.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Выпішыце сказы з даданымі членамі, якія звязаны па сэнсе з дзейнікам.

Лясныя сцежкі вядуць чалавека да пазнання таямніц. Але не кожнаму яны адкрываюцца.

Ідзе адзін і не бачыць нічога асаблівага. А другі ўбачыць вавёрку, што прытаілася на сасне. Тонкі назіральнік заўважыць дзірачкі на маладой бярозцы. З іх ласаваўся салодкім сокам дзяцел. Сапраўдны сябар лесу вызначыць, хто гэта пракрычаў у зарасніку.

Чалавек разумее лес, і лес разумее яго. Напоіць сокам, схавае ад дажджу, дасць адпачынак, накорміць сваімі дарамі *(Паводле В. Стомы)*.



**98.** Прачытайце. Спішыце. Замест пытанняў устаўце даданы член сказа, які падыходзіць па сэнсе.

Адспяваў у лесе (я к і?) хор. Толькі зрэдку падасць голас (я к і?) каралёк. (Я к і я?) вавёркі назапасілі арэхаў і жалудоў. (Я к а я?) сям'я нарыхтавала драўніны. А (я к і?) вожык ужо заснуў у цёплым гняздзе.

Для даведкі: *бабровая, калючы, клапатлівыя, маленькі, птушыны.*

## Словы ў сказе, якія звязаны з выказнікам

**99.** Прачытайце сказы. Назавіце выказнік і даданыя члены, звязаныя з ім па сэнсе. Вусна пастаўце пытанне да даданых членаў сказа.

1. Брат сустракае сястру.
2. Калгаснікі сабралі ўраджай.
3. Санька іграе на жалейцы.

**100.** Прачытайце прымаўкі. Як вы разумееце іх сэнс? Спішыце. Падкрэсліце выказнікі. Вызначце даданыя члены, звязаныя па сэнсе з выказнікам.

што?

У з о р. *Розум і сілу перамагае.*

1. У няўмекі рукі не баляць. 2. Праўда звя́гі[зн] не баіцца. 3. Добры чалавек і жывёлу шкадуе. 4. На навуцы свет стаіць.

**101.** Запішыце сказы, устаўляючы з правага слупка даданыя члены сказа, якія падыходзяць па сэнсе.

| | |
|---|---|
| Зоська вылепіла (к а г о?) з (ч а г о?). | чалавека, з павагай |
| Бабуля для (к а г о?) згатавала (ш т о?). | на зямлі, у космасе |
| Да працоўнага (к а г о?) людзі адносяцца (я к?). | унучкі, бутэрброд |
| (Я к?) мігцелі зоркі (д з е?). | вожыка, пластыліну |
| Праца касманаўта пачынаецца (д з е?) і працягваецца (д з е?). | ярка, на небе |

**бутэрбро́д**



**102.** Прачытайце. Пры спісванні ўстаўце па пытаннях даданыя члены сказа, звязаныя па сэнсе з выказнікам.

Ёсць у (к а г о?) любімыя мясціны. Стракаты дзяцел пасяліўся (д з е?). Сярод елак стаяла высокая прыгожая (ш т о?). На асіне дзяцел зрабіў (ш т о?). Дзяцел адтуль бачыў увесь (ш т о?). Многія птушкі зайздросцілі лясному (к а м у?) *(Паводле Я. Коласа)*.

Для даведкі: *гняздо, лекару, лес, птушак, у ельніку, асіна.*

## Вызначэнне сувязі слоў у сказе пры дапамозе пытанняў

**103.** Прачытайце сказ. Спішыце і падкрэсліце галоўныя члены сказа.

Зялёнай сцяной абступілі возера векавыя дубы.

Запішыце пары слоў, якія звязаны паміж сабой па сэнсе.

дубы (я к і я?) ...
абступілі (ш т о?) ...
абступілі (ч ы м?) ...
сцяной (я к о й?) ...



Словы ў сказе звязваюцца паміж сабой па сэнсе.

Сувязь слоў вызначаецца пры дапамозе пытанняў, напрыклад:

я к? д з е? я к і я?

*Панура шумелі над галавой старыя ліпы.*

**104.** Спішыце сказ. Падкрэсліце галоўныя члены.

Да вокнаў туліўся сіняваты змрок зорнага вечара *(Т. Хадкевіч)*.

Выпішыце ў адпаведнасці з пытаннямі пары слоў, якія звязаны ў сказе паміж сабой па сэнсе.

змрок (я к і?) ...
змрок (ч а г о?) ...
туліўся (д а ч а г о?) ...
вечара (я к о г а?) ...



Пара слоў, якія звязаны паміж сабой па сэнсе, — гэта **словазлучэнне.** Дзейнік і выказнік словазлучэннем не з’яўляюцца.

**105.** Прачытайце тэкст. Чаму ён мае такую назву?

КАНАРЭЙКІ НА ПЕНСІІ

Пяцьдзясят канарэек працавалі разам з шахцёрамі. Птушкі выяўлялі ядавітыя газы ў шахтах. Не раз канарэйкі ратоўвалі жыццё шахцёрам. Але цяпер крылатых сяброў замяніла электронная апаратура. Гарнякі не разлучыліся з канарэйкамі. Птушкі перасяліліся ў шахцёрскія сем’і *(Часопіс «Гаспадыня»)*.

Выпішыце ў адпаведнасці з пытаннямі дадзеныя члены сказа, звязаныя па сэнсе з выказнікам:

1) працавалі (з к і м?) ...;
2) выяўлялі (ш т о?) ...;
3) выратоўвалі (ш т о?) ...;
4) замяніла (к а г о?) ...;
5) не разлучыліся (з к і м?) ...;
6) перасяліліся (к у д ы?) ... .



**106.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце дзейнік і выказнік. Стрэлачкай і пытаннем пакажыце сувязь даданых членаў сказа з галоўнымі (узор: гл. с. 56).



У Беларусі снегіры з'яўляюцца ў лістападзе.

Са снегірамі прылятаюць з тундры амялушкі. Чубатыя птушкі ласуюцца спелай рабінай. Любяць амялушкі і ягады ядлоўцу *(газета «Раніца»)*.

## Разбор сказаў па членах сказа

**107.** Прачытайце. Знайдзіце галоўныя члены сказа. Назавіце спачатку даданыя члены, звязаныя па сэнсе з дзейнікам, а потым — тыя даданыя, што звязаны з выказнікам.

Над далёкім лесам блiснула нізкае сонца. Успыхнулі каляровымі агнямі верхавіны дрэў.



### Як разабраць сказ па членах сказа

Пры разборы па членах сказа разважай так.

Стаўлю пытанне «Пра што гаворыцца ў сказе?». У сказе гаворыцца пра сонца. (Ш т о?) ***сонца*** — дзейнік, падкрэсліваю адной прамой лініяй.

Стаўлю пытанне «Што гаворыцца пра сонца?». *Сонца* (ш т о з р а б і л а?) ***бліснула*** — выказнік, падкрэсліваю дзвюма прамымі лініямі.

Стаўлю пытанне ад дзейніка: *сонца* (я к о е?) ***нізкае*** — дададзены член сказа, які звязаны па сэнсе з дзейнікам і паясняе яго.

Стаўлю пытанне ад выказніка: *бліснула* (н а д  ч ы м?  д з е?) ***над лесам*** — дададзены член сказа, які звязаны па сэнсе з выказнікам і паясняе яго.

Стаўлю пытанне ад дададзенага члена: *над лесам* (я к і м?) ***далёкім*** — дададзены член сказа, які звязаны па сэнсе з іншым дададзеным членам і паясняе яго.



Які парадак разбору па членах сказа?

Вусна разбярыце другі сказ па членах сказа.



Разабраць сказ па членах сказа — гэта значыць знайсці яго галоўныя і дададзеныя члены.

**108.** Прачытайце сказы.

Птушкі адлятаюць.
Птушкі адлятаюць у вырай.
Пералётныя птушкі адлятаюць у вырай.
Пералётныя птушкі восенню адлятаюць у вырай.



- Якія члены ў гэтых сказах агульныя?
- Якім дададзеным членам адрозніваецца кожны наступны сказ ад папярэдняга?

Спішыце сказы. Пакажыце сувязь членаў сказа паводле ўзору.

У з о р. *Душэўны* *чалавек* (я к і?) *шануе* *красу* (ш т о?) *прыроды* (ч а г о?).

З якімі членамі сказа могуць звязвацца па сэнсе дадзеныя члены?

**109.** Прачытайце. Спішыце сказы, упісваючы замест кропак дадзеныя члены ў адпаведнасці з пытаннямі.

1. Скачуць (п а ч ы м?) ... (я к і я?) ... сініцы. 2. (Я к і я?) ... рабіны стаяць (д з е?) ... . 3. (Я к а я?) ... сястра прыйшла (д а к а г о?). 4. (Д з е?) ... плывуць (я к і я?) ... воблакі. 5. (Ч ы й?) ... брат вучыцца (н а к а г о?) ... .

Для даведкі: *стройныя, каля дарогі; у небе, сівыя; Санькаў, на камбайнера; па галінках, чубатыя; медыцынская, да бабулі.*

**камба́йнер**



**110.** Прачытайце. Запішыце сказы. У дужках пастаўце пытанні да дадзеных членаў сказа.

1. (...?) Пясчаная дарога выйшла на край (...?) узгорка. 2. Прыляціць з-за лесу вецер (...?) колкі і (...?) сухі. 3. Потым лягуць (...?) звонкія снягі. 4. Першыя замаразкі ўкрылі (...?) інеем (...?) дрэвы.

**111.** Прачытайце. Па пытаннях устанавіце сэнсавую сувязь паміж членамі сказа. Асобна з кожнага сказа выпішыце дзейнік і выказнік. Затым выпішыце пары слоў з дадзенымі членамі сказа.

Маўклівая ноч плыве над прыціхлай зямлёй. У цьмяным небе замігацелі зоркі. Узышоў над лесам бліщчасты месяц.

У з о р: (ш т о?) *ноч* (ш т о р о б і ц ь?) *плыве*; *ноч* (я к а я?) *маўклівая*; *плыве* (н а д ч ы м?) *над зямлёй*; *зямлёй* (я к о й?) *прыціхлай*.

**112.** Прачытайце. Запішыце сказы і пастаўце пытанні да кожнага слова. Складзіце схемы сказаў.

У з о р. (Я к а я?) *Мілагучная* (ш т о?) *песня* (к а л і?) *заўсёды* (ш т о р о б і ц ь?) *зачароўвае* (к а г о?) *чалавека*.

1. Родная песня ўзвышае чалавека. 2. Беларуская душа спявае заўсёды і ўсюды.

✷ **113.** Прачытайце схемы. Вусна складзіце паводле іх сказы.

(Я к і?) … (ш т о?) … (ш т о р о б і ц ь?) … (д з е?) … .

(Я к і я?) … (х т о?) … (ш т о з р а б і л і?) … (к у д ы?) … .

✸ **114.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Ці можна яго лічыць казкай?

### ЛЯСНАЯ ЛЕКАРКА

Усё лета вавёрка збірала лекі. Убачыла вавёрку ласка і пытае:

— Навошта табе кветкі, сястрыца?

— Лекі збіраю.

Хутка і восень на кані шэрым прыскакала.

Сарока вока запарушыла. Вавёрка прамыла вока настоем дзеразы.

Забалела ў зайчыка сэрца. Вавёрка палячыла зайчыка каплямі ландышавымі.

У дзятла шчака апухла. Вавёрка лісткі трыпутнікавыя прыкладвала.

Хваляць лясныя жыхары вавёрку-лекарку *(Паводле Я. Галубовіча)*.

Выпішыце (па варыянтах) сказы паводле наступных схем.

**I.** 1. (У к а г о?) ... (ш т о?) ... (ш т о з р а б і л а?) ... . 2. (Х т о?) ... (ш т о?) ... (я к і я?) ... (ш т о р а б і л а?) ... .

**II.** 1. (Х т о?) ... (ш т о?) ... (ш т о з р а б і л а?) ... . 2. (Х т о?) ... (ш т о з р а б і л а?) ... (ш т о?) ... (ч ы м?) ... (ч а г о?) ... .

**III.** 1. (Ш т о з р а б і л а?) ... (у к а г о?) ... (ш т о?) ... . 2. (Х т о?) ... (ш т о з р а б і л а?) ... (к а г о?) ... (ч ы м?) ... (я к і м і?) ... .



**115.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Спішыце. Падкрэсліце дзейнік і выказнік. Стрэлачкамі і пытаннямі абазначце сувязь галоўных і даданых членаў сказа.

1. Навука вочы адкрывае. 2. Пусты колас угору тырчыць. 3. Розум і сілу перамагае. 4. На хітрасць даў Бог мудрасць. 5. Мудры чалавек сваім розумам не хваліцца.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Для чаго служыць сказ?
2. Як звязаны словы ў сказе?
3. Што складае аснову сказа?
4. Якую ролю выконваюць даданыя члены сказа?

**116.** Разгледзьце табліцу і раскажыце, што ў ёй адлюстравана.

| Тыпы сказаў па мэце выказвання | Знакі прыпынку ў канцы сказа |
|---|---|
| Апавядальны | .<br>! |
| Пытальны | ?<br>?! |
| Пабуджальны | .<br>! |

**117.** Прачытайце сказы ўголас. Спішыце іх у тым парадку, як паказана ў табліцы на с. 63.

1. Што вы ведаеце пра Вязынку? 2. Грай, спявай, звіні над краем, весяліся, скрыпка *(Л. Пранчак)*. 3. Праўду гаворыць не язык, а душа *(Прымаўка)*. 4. Не забывай ніколі, дружа, сваіх сяброў! 5. Як чыста, хораша прыбрана! *(Я. Колас)*. 6. І дзе на свеце ёсць такая, як Нёман, рэчанька другая?! *(Я. Колас)*.

**118.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту. Спішыце 4 сказы і ў канцы іх пастаўце адпаведныя знакі прыпынку.

Люся кідала вераб'ям крошкі Вераб'і са страхам адляталі

— Чаму яны мяне баяцца Я ж ніколі іх не крыўдзіла

— Ты не вінавата, — супакойваю я дзяўчынку

— А хто вінаваты

— Мы вінаваты Усе-усе Адны — таму, што заўсёды птушак крыўдзілі Другія — што дазвалялі крыўдзіць *(М. Сладкоў)*.

**119.** Прачытайце верш. Які загаловак можна яму даць?

Сівер[зн] з поля вее.
Журыцца даліна.
Ярка палымнее
на мяжы каліна.

Ягадныя гронкі
падмарозіў іней.
І адразу селі
птушкі на каліне.

*М. Чарняўскі*

Знайдзіце і запішыце сказы, якія адпавядаюць наступным схемам.

1. (Я к і я?) ... (ш т о?) ... (ш т о з р а б і ў?) ... (ш т о?) ... .

2. (Я к?) ... (ш т о р о б і ц ь?) ... (д з е?) ... (ш т о?) ... .



**120.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Спішыце. Стрэлачкамі і пытаннямі абазначце сувязь даданых членаў сказа з галоўнымі.



1. Сівыя бараны ў небе плаваюць.
2. З высокай дарогі глядзіць бычок крутарогі.

# СЛОВА

## ЛЕКСІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ СЛОВА

### Агульнае паняцце пра мнагазначныя словы

**121.** Прачытайце верш. Вызначце яго тэму.

Вяду ўрок я роднай мовы.
Нясмелыя ліюцца гукі:
— Скажыце, што такое гай?
І цягнуцца, як крылы, рукі:
— То светлы ад бярозак край!
— А Бацькаўшчына што такое?
У вочках квецяць васількі.
Як жытні колас, спеюць словы:
— Зямля, што нам далі бацькі.

*Т. Мельчанка*



- Што такое лексічнае значэнне слова?
- Як бы вы сказалі, што такое *гай, Бацькаўшчына*?

Зверце вашы адказы па тлумачальным слоўніку. Скажыце, якое слова мае адно лексічнае значэнне, а якое — некалькі значэнняў.



Словы, якія маюць адно лексічнае значэнне, называюцца **адназначнымі:** *гай, васілёк, весялун, лось.*

Словы, якія маюць некалькі лексічных значэнняў, называюцца **мнагазначнымі:** *Бацькаўшчына, урок, крыло, зямля.*

**122.** Прачытайце і адгадайце загадку. Запішыце яе.

Адна я ў лесе з белаю карой.
Багата сокам веснавой парой.

*К. Жук*



- Якія словы падказалі вам адгадку?
- Якое лексічнае значэнне мае слова *бяроза*?
- Адназначнае ці мнагазначнае гэтае слова? Зверце ваш адказ па тлумачальным слоўніку.

**123.** Прачытайце. Спішыце сказы ў тым парадку, які адпавядае прыведзеным значэнням слова *дарога.*

1. З лесу дарога раптам выбегла ў поле *(А. Якімовіч).* 2. Вучэнне — гэта дарога да ведаў *(Я. Курто).* 3. На сваю дарогу ён накіроўваў сваё дзіця *(К. Чорны).* 4. Нават пешаходу нельга было выбірацца ў дарогу — усюды бясконцая вада *(М. Лынькоў).*

1. Падарожжа, паход.
2. Паласа зямлі для хадзьбы.
3. Род дзейнасці.
4. Сродак для дасягнення чаго-небудзь.



**Канкрэтнае значэнне мнагазначнага слова вызначаецца па сэнсавай сувязі з іншымі словамі ў сказе ці ў тэксце.**

**124.** Прачытайце. Вызначце, у якіх слупках выдзеленыя словы з'яўляюцца мнагазначнымі.

*гараць* дровы
*гарыць* твар
*гараць* кветкі

*хлеб* жытні
*хлеб* смачны
*хлеб* пшанічны

*свежае* паветра
*свежая* газета
*свежы* вецер

Са словамі першага слупка складзіце і запішыце сказы.



**125.** Прачытайце. Вызначце, у якіх сказах выдзеленыя словы ўжыты ў розных значэннях. Спішыце гэтыя сказы.

1. У небе не было ні хмаркі, стаяў ясны *сонечны* дзень *(І. Гурскі)*. Хай заўжды, мая Айчына, будзе *сонечным* твой лёс.

2. Як гэта добра, што ёсць у цябе ён, *родны* кут *(Г. Далідовіч)*. А мы яшчэ маем сілы і пойдзем да *родных* ніў *(К. Кірэенка)*.

3. *Беглі* дні, і памалу канчалася восень *(У. Крайчанка)*. Віталік павярнуўся і пусціўся *бегчы* па вуліцы *(М. Даніленка)*.

## Ужыванне слоў у прамым і пераносным значэнні

**126.** Разгледзьце малюнак і прачытайце сказы. У якім сказе гаворыцца пра тое, што намалявана? Зачытайце гэты сказ.

1. Міхась працаваў так старанна, што не заўважаў, як ляціць час.
2. Паважна над полем ляціць бусел.





Вусна адкажыце на пытанні:

- У якім сказе слова *ляціць* ужыта ў значэнні «перамяшчаецца ў паветры пры дапамозе крылаў», а ў якім — у значэнні «хутка праходзіць»?
- Якое з гэтых значэнняў асноўнае, пастаяннае, а якое — дадатковае?



**Прамое значэнне** — гэта асноўнае, пастаяннае значэнне слова.

**127.** Разгледзьце малюнкі.





- Якія намаляваныя прадметы падобныя паміж сабой?
- Якія з іх можна падпісаць словамі *грэбень, журавель, іголкі*?
- У подпісах да якіх прадметаў гэтыя словы маюць пераноснае значэнне?



**Пераноснае значэнне** — гэта дадатковае значэнне слова. Яно ўзнікае пры пераносе назвы з аднаго прадмета на другі на аснове іх падабенства.

**128.** Параўнайце сказы парамі. Вызначце, у якім з іх перанос назвы адбыўся на аснове падабенства формаў прадметаў, у якім — на аснове падабенства колеру, а ў якім дзеянні жывых прадметаў перанесены на дзеянні нежывых прадметаў.

1. Дзяцел выставіў доўгі *язычок* і хуценька пачаў злізваць кропелькі соку. — У лямпе падскокваў пляскаты *язычок* агню.

2. Марына надзела на палец *залаты* пярсцёнак. — На небе ўзыходзіў месяц *залаты*.

3. Усю зіму яноты *спяць* у дуплах дрэў. — Пад снежнаю коўдрай *спяць* руні палёў.

Спішыце сказы, у якіх выдзеленыя словы ўжыты ў пераносным значэнні.

**129.** Прачытайце.

Ад дрэва да дрэва ідзе пехатой
кастрычнік, мастак адмысловы,
і фарбай буршты́навай[зн] і залатой
малюе лісточкі ў дуброве.
Зірні: ён і сам, адступіўшы на крок,
глядзіць на абсяг маляўнічы,
і робіць апошні агністы мазок,
і подпіс выводзіць: «Кастрычнік!».

*А. Мінкін*



- Чаму паэт піша пра месяц кастрычнік як пра мастака?
- Якія словы дапамаглі аўтару стварыць такі жывы вобраз?
- У прамым ці ў пераносным значэнні яны ўжыты ў вершы?

Спішыце першы сказ. Падкрэсліце словы з пераносным значэннем.

**130.** Складзіце і запішыце па 2 сказы, каб прыведзеныя словы ўжываліся ў першым сказе ў прамым значэнні, а ў другім — у пераносным.

У з о р. *Сымонка ідзе па садовай сцежцы. — Ідзе бялюсенькі сняжок.*

Бегчы, востры.



**131.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.

Адгарэлі някі..кім хараством по..нія кветкі. На небасхіле патух лісцевы пажар. Днём і ноччу ні..ка над п..лямі плывуць ця..кія хмары. На восен..скую дарогу выйшаў шэравокі лістапад. Халодныя в..тры чысцяць дарогі для прыходу зімы.

## Сінонімы

**132.** Прачытайце пары сказаў. У якіх з іх выдзеленыя словы абазначаюць адзін і той жа прадмет і маюць аднолькавае лексічнае значэнне, а ў якіх абазначаюць адну і тую ж прымету і маюць блізкае лексічнае значэнне?



1. Пушыстыя *адуванчыкі* бялеюць у сухой траве. — З *дзьмухаўцоў* вецер-гарэза здзьмуў бялюткі пух.

2. Дзядзька Цімох — *добры* трактарыст і працуе старанна. — Якуб — *выдатны* майстар-ювелір.



Словы, якія абазначаюць адзін і той жа прадмет, дзеянне ці прымету і маюць аднолькавае ці блізкае лексічнае значэнне, называюцца **сінонімамі:** *кветка — краска, адважны — смелы.*

**133.** Прачытайце. Знайдзіце словы, якія абазначаюць адно і тое ж паняцце. Ці з'яўляюцца яны сінонімамі?

1. Усе мае думкі з табою, Айчына *(Е. Лось)*. 2. І васількі, як Бацькаўшчыны вочы, цвілі прыветнай, сціплаю красой *(В. Ярац)*.

**цвісці́**



Якія яшчэ блізкія па значэнні словы можна падабраць да слоў *Бацькаўшчына, Айчына*?

✷ **134.** Прачытайце. Выпішыце сказы, у якіх ёсць сінонімы.

Лётаюць, сыплюцца
зоркі-сняжынкі.
Белыя, лёгкія,
быццам пушынкі.

Роўна так сцелюцца
ў вёсцы і ў полі,
круцяцца, кружацца
ціха, паволі.

*Я. Журба*

**135.** Прачытайце. Выпішыце сказы, у якіх ужыты сінонімы з блізкім значэннем. Растлумачце свой выбар.

1. Васіль быў рыбак не толькі заўзяты, а нават заядлы *(А. Якімовіч)*. 2. «Давай свой плячак», —

працягнуў ён руку і ўзяўся за лямкі рукзака *(У. Дамашэвіч)*. 3. Не воблака, а проста аблачынка загадкава плыве над галавой *(Я. Янішчыц)*. 4. Даўным-даўно адцвіў мой сад і макі адгарэлі *(Хв. Жычка)*.



**136.** Прачытайце. Спішыце сказы. Знайдзіце і падкрэсліце ў іх сінонімы.

1. Светлая хмарка ціха і спакойна плыла ў небе. 2. Кветкі ў чыстых росах вочы мылі, каб пахарашэць, папрыгажэць *(С. Каробкіна)*. 3. Лёнька крочыць, тэпае побач з дзедам і трымаецца за адзін палец рукі. 4. Маляўнічыя, прыгожыя краявіды зачаравалі Ягорку.

## Антонімы

**137.** Разгледзьце пары малюнкаў. Прачытайце подпісы і назавіце ў іх словы, супрацьлеглыя па значэнні.



Ева
смяецца



Зоя
плача



чапля
белая



казарка
чорная



Словы, якія маюць супрацьлеглае лексічнае значэнне, называюцца **антонімамі:** *смелы — баязлівы, блізка — далёка, праўда — няпраўда, паляцець — прыляцець*.

**138.** Прачытайце смяшынку. Назавіце пары слоў, якія з’яўляюцца антонімамі.

— Усе целы ад цяпла расшыраюцца, а ад холаду сціскаюцца. Ці не прывядзеш, Сцёпка, прыклад?

— Зімой дні карацейшыя, таму што холадна, а летам даўжэйшыя, таму што горача *(Часопіс «Вясёлка»)*.

**139.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. У якіх выпадках іх можна выкарыстаць?

1. Жыві сваім розумам, а не чужым. 2. Добраму ўсюды добра, а кепскаму кепска. 3. Многа робіць языком, ды мала рукамі. 4. Лепш горкая праўда, чым салодкая мана.

Спішыце. Падкрэсліце антонімы.

**140.** Прачытайце. Знайдзіце антонімы і выпішыце іх парамі. З дзвюма парамі антонімаў складзіце свае сказы.

Мне здаецца, што ўсе дрэвы жывыя. Яны адчуваюць і цяпло і холад, умеюць радавацца і сума-

ваць. Вы ўслухайцеся ў іхні шум. Які ён розны летам і зімой, раніцай і вечарам. Адно, чаго яны не ўмеюць, — супраціўляцца чужой сіле. Не ўмеюць заступіцца за сябе. Гэта бяда іхняя і іхняе шчасце, бяссілле і сіла. Што ні рабі з дрэвам, але дуб застаецца дубам, бяроза — бярозай, асіна — асінай. Можна расці на гэтай зямлі — расце, няможна — памірае *(Паводле А. Кудраўца)*.

✷ **141.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс гэтых сказаў? Ці з'яўляюцца выдзеленыя словы антонімамі?

1. Вучыся ў людзей *добраму* і не пераймай *дрэннага (У. Дамашэвіч)*. 2. Плач дзіцяці — *дождж* і *сонца* ўперамежку *(А. Пысін)*.



**142.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Спішыце тыя, у якіх ёсць словы-антонімы.

1. Лечыць летам і зімой дрэвы дзюбаю сваёй. 2. Стаяць на полі сястрычкі, залатыя вочкі, белыя расьнічкі. 3. Знаходзіцца дома ў сонечны дзень,






а вось у дажджлівы гуляць ён ідзе *(М. Пазнякоў)*. 4. Носік сталёвы, а хвосцік ільняны.

## Падбор сінонімаў і антонімаў

**143.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы замест кропак словы, блізкія па значэнні да выдзеленых слоў.

1. Хатынскія званы *гукаюць*, ..., ...: «Людзі, будзьце пільныя!» 2. Ад *бяды* ўцёк, ды ў ... трапіў. 3. Позняй восенню *ціха*, ..., ... кожнае дрэва думае сваю думу. 4. *Блішчаць*, ... на сонцы белыя абрусы снягоў.

Для даведкі: *паволі, зажурана; іскрацца; гора; крычаць, заклікаюць.*

**144.** Прачытайце. Да слоў левага слупка падбярыце антонімы са слоў правага слупка. Запішыце пары слоў паводле ўзору.

У з о р: *шырокі — вузкі.*

| | |
|---|---|
| высокі | моцны, нізкі, вялікі |
| дзень | месяц, ноч, вечар |
| лета | восень, вясна, зіма |
| праўда | мана, вера, надзея |
| вясёлы | радасны, шчаслівы, сумны |

З антонімамі адной пары складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце іх аснову.

**145.** Прачытайце. Якое слова ў тэксце сустракаецца двойчы? Як можна пазбегнуць яго паўтарэння?

Усхадзілася завіруха. Нанач яшчэ больш завіла, закружыла сляпучая завіруха. У каламутнай завірусе цьмяна выморгвалі і хаваліся, гінулі жоўтыя агні вёскі.

Запішыце тэкст, не паўтараючы слова *завіруха.*

**146.** Прачытайце прыказкі. Растлумачце іх сэнс. Спішыце і замест кропак устаўце словы, якія з'яўляюцца антонімамі да выдзеленых слоў.

1. *Новых* сяброў набывай, але і ... не забывай. 2. *Ранняя* птушачка зерне клюе, а ... вочкі працірае. 3. Рыхтуй *летам* сані, а ... калёсы. 4. *Блізка* відаць, ды ... дыбаць. 5. Сады садзі і ў *маладосці*, і ў ... .



**147.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы замест кропак сінонімы ці антонімы.

1. Усе рагочуць, ... разам з імі і Валодзька. 2. Ластаўка дзень пачынае, а салавей ... . 3. Зося сцісла, ... пісала пра свае поспехі. 4. Наперадзе шпарка крочыў Віктар, за ім ... Мірон. 5. Жыві сваім розумам, а не ... .

Для даведкі: *ішоў, канчае, коратка, смяецца, чужым.*

## Словы, якія маюць блізкае гучанне, але рознае значэнне. Высвятленне значэння слова пры дапамозе тлумачальнага слоўніка

**148.** Разгледзьце малюнкі і прачытайце подпісы да іх. Высветліце значэнне гэтых слоў пры дапамозе тлумачальнага слоўніка. Яны маюць блізкае ці рознае лексічнае значэнне?


гантáль


гантэ́ль


кваква


квакша



У мове ёсць словы, якія маюць блізкае гучанне, але рознае значэнне: *маляр* і *муляр*, *змучаны* і *змушаны* і інш. Пры ўжыванні такіх слоў патрэбна добра ведаць іх лексічнае значэнне, каб не трапіць у смешнае становішча.

**149.** Прачытайце смяшынку.

С л а в і к. А мама сказала, што нам ужо выпісалі ордэн, і мы пераедзем у новы дом. Мы будзем жыць на сёмым паверсе.

В і т а л і к. Здорава! На сёмы паверх вы будзеце ездзіць на люфце.



Якія словы пераблыталі хлопчыкі?

Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам, высветліце, што гэтыя словы абазначаюць.

**150.** Адкажыце на пытанні. Абгрунтуйце свае адказы. Пры неабходнасці выкарыстайце тлумачальны слоўнік.

1. Як называецца моцная бура на моры: *шторм* ці *штурм*? 2. Што значыць пазбаўляцца чаго-небудзь, пакідаючы ці забываючы невядома дзе па няўважлівасці: *губіць* ці *губляць*? 3. Як гавораць пра год, у які сабралі багаты ўраджай: *ураджайны* ці *ўрадлівы*? 4. Як называецца прадмет, што выстаўляецца ў музеі ці на выстаўцы для агляду: *экспанат* ці *экспанéнт*[зн]? 5. Як называецца шэры дахавы матэрыял у выглядзе лістоў: *шыфер* ці *шыфр*?

**151.** Прачытайце. Знайдзіце ў кожным сказе недакладна ўжытае слова. Спішыце, замяняючы гэта слова тым, якое адпавядае сэнсу сказа.

1. Змушаны цяжкай працай, дзядуля прысеў адпачыць. 2. Неба ачысцілася ад хмар, і выглянуў

месяц у трэцяй кварце. 3. Пасля кантракта гледачы занялі свае месцы ў зале. 4. Трэба было мець асобны талент, каб так спяваць.

Для даведкі: *антракту, асаблівы, змучаны, ква́дры*[зн].



**152.** Прачытайце. Спішыце, выкарыстоўваючы тое слова з дужак, якое адпавядае сэнсу сказа. Растлумачце свой выбар.

1. Лявонка мяў у руках *(пластыр, пластылін)* і ляпіў вожыка. 2. Слухачы апладысментамі праводзілі са сцэны *(чытача, чытальніка)*. 3. Вольга Макараўна падрыхтавала для гасцей *(сытны, сыты)* абед. 4. Арцём прымацоўваў да *(дрэўца, дрэўка)* палотнішча сцяга. 5. Мы спускаліся высокім *(камяністым, каменным)* берагам.




**153.** Прачытайце тэкст. Якая яго асноўная думка? Які загаловак яму можна даць?

Аліку не давалася матэматыка. Цэлы месяц ён настойліва рашаў задачы. І вось сёння ён атрымаў выдатную адзнаку. Хлопчык вылецеў са школы прыпяваючы. Свяціла сонца. Аліку здавалася, што ўвесь свет радуецца разам з ім.

На вуліцы Алік наляцеў на старэнькую бабулю і незнарок штурхнуў яе. Яна несла яблыкі ў кульку, і яны рассыпаліся па асфальце. Алік адскочыў

убок і пабег. Хлопчык не папрасіў прабачэння і не памог бабулі сабраць яблыкі.

Алік спыніўся толькі праз два кварталы. Твар яго гарэў. Сэрца моцна стукала. На душы стала вельмі пагáна[зн].

Выходзіць, што дрэнныя ўчынкі мучаць нават і тады, калі ніхто са знаёмых не бачыў *(Паводле А. Кузняцова)*.

Прачытайце план.

1. Здарэнне на вуліцы.
2. Паводзіны Аліка.
3. Пагана на душы.
4. Дрэнны ўчынак мучыць.

Зачытайце тыя часткі тэксту, якія адпавядаюць пунктам плана. Якая частка тэксту не пазначана пунктам плана?

Напішыце пераказ паводле прапанаванага плана.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**154.** Прачытайце верш С. Басуматравай.

Гучна цікае гадзіннік,
час адлічвае няспынна.
А пакуль — ідзе гадзіннік.
Час — ідзе.
Жыццё — ідзе.

*цягнецца*
*працуе*
*працягваецца*



У прамым ці ў пераносных значэннях ужыта ў вершы слова *ідзе*? Якое лексічнае значэнне мае яно ў кожным асобным сказе?

Складзіце і запішыце 2 сказы, каб у адным з іх слова *ідзе* мела прамое значэнне, а ў другім — пераноснае.

**155.** Прачытайце смяшынку.

У першым класе ідзе ўрок чытання. Пятрок чытае подпіс пад малюнкам па літарах:

— Сы-у-мы-кы-а...

— Ну і што атрымаецца?

— Торбачка!



- Якія словы называюцца сінонімамі?
- Ці з'яўляюцца сінонімамі словы *сумка* і *торбачка*?

Складзіце і запішыце сказы з гэтымі словамі.

**156.** Прачытайце.

1. У Стасіка касцюм *светлы*, а ў Сцёпкі — *новы*. 2. Гэта суkенка *чыстая*, а тая — *паласатая*. 3. Ліза жыве ў *высокім* доме, а Ганька — у *драўляным*. 4. У Сені піла *вострая*, а ў Карнея — *жалезная*.

**драўля́ны**



- Якія словы называюцца антонімамі?
- Ці з'яўляюцца выдзеленыя ў сказах словы антонімамі?

Замяніце адно з іх антонімам і запішыце сказы.

**157.** Прачытайце. Выберыце ў дужках патрэбнае слова і запішыце сказы.

1. Бацька Міколкі працуе *(леснікОм, лесуном)*. 2. Зноў падуў *(лядовы, ледзяны)* вецер. 3. Мастак намаляваў маладую прыгожую *(пра́ллю*[зн]*, пральню)*.



**158.** Прачытайце.

1. Мой сябра вельмі *(паважае, любіць)* вершы. 2. Хлопчык *(пайшоў, паехаў)* у лес на лыжах. 3. Брыгада, у якой працуе Цімох, выйшла ў лік *(пярэдніх, перадавых)*.

Спішыце, устаўляючы замест кропак тое слова, якое адпавядае сэнсу сказа.

З другім словам складзіце і запішыце свае сказы.

## САСТАЎ СЛОВА

### Корань слова. Аднакаранёвыя словы

**159.** Прачытайце. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

*Снег.*
*Сняжынкі,* як пушынкі,
асядаюць на трысці́ [зн].
*Засняжыў*
*сняжок* сцяжынку,
Нельга поле перайсці.

*П. Броўка*

Выпішыце выдзеленыя словы ў слупок і абазначце дужкай агульную частку іх асноў.



- Ці ёсць у значэнні выдзеленых слоў што-небудзь агульнае?
- Ці можна сказаць, што агульнае ў значэнні гэтых слоў выражае агульная частка *снег- (сняж-)*?



Словы, якія маюць агульную частку і звязаны паміж сабой па значэнні, называюцца **роднаснымі**. Агульная частка роднасных слоў называецца **коранем**: *зіма*, *зімовы*, *зімаваць*.

Роднасныя словы называюцца яшчэ **аднакаранёвымі**, таму што ўсе яны маюць адзін і той жа корань.

Корань абазначаецца знакам ⌒.

**160.** Прачытайце казку.

Даўным-даўно з'явілася на свеце слова **лес**. Знайшлі яго людзі і думаюць, што з ім рабіць. А слова просіць: «Пасадзіце мяне. Я разрастуся ў вялікае дрэва». Так і зрабілі. І стала слова **лес** пускаць адзін расток за другім: **лясок**, **узлесак**, **Залессе**, **лясны**...

Паглядзелі людзі, параўналі словы і ўбачылі, што ва ўсіх новых словах ёсць адна агульная частка, якая іх родніць, робіць падобнымі, хоць ёсць і адрозненні. Падумалі, параіліся і вырашылі назваць агульную частку слоў **КОРАНЕМ**, таму што ад яго, як ад кораня дрэва, утвараюцца новыя, падобныя паміж сабой словы.



- Ці ўдалую назву прыдумалі людзі агульнай частцы падобных паміж сабой слоў?
- Чым яны кіраваліся, калі шукалі назву?

**161.** Прачытайце словы ў радках. У якім радку запісаны аднакаранёвыя словы, а ў якім — словы з блізкім значэннем (сінонімы)?

1. Адважны, смелы, храбры, бясстрашны.
2. Адвага, адважны, адважна, адважыцца.

Запішыце аднакаранёвыя словы ў слупок і абазначце корань.



У корані некаторых слоў могуць чаргавацца гукі: *адвага* — *адважны*, *касіць* — *кашу*, *каса* — *пракос*.

**162.** Прачытайце.

1. Цвёрда веру ў добрых людзей.
   Дабрыня — яна ў іхнім паглядзе *(А. Салтук)*.
2. Чалавек асвоіць космас,
   Зацвіце касмічны сад *(А. Дзержынскі)*.

Спішыце. У аднакаранёвых словах абазначце корань і аснову.



**163.** Прачытайце. Устаўце замест кропак слова з такім жа коранем, як і ў першым слове сказа. Запішыце сказы. У роднасных словах абазначце корань.

Праграміст — гэта той, хто складае ... .
Асіннік — гэта лес, у якім растуць ... .

Скрыпач — гэта той, хто іграе на ... .
Кармушка — гэта скрынка з ... для птушак.

**164.** Прачытайце. Здагадайцеся, якія словы маюць такія значэнні.

1. Чалавек, які даглядае сад, — ... . 2. Ядомы грыб з буравата-чорнай шапкай, які расце ў бярэзніку, — ... . 3. Вяровачка, шнурок, якімі завязваюць што-небудзь, — ... . 4. Прылада для акурвання пчол дымам — ... .

Спішыце. Замест кропак устаўце патрэбныя словы. У роднасных словах знайдзіце і абазначце корань.

Для даведкі: *дымар, завязка, падбярозавік, садоўнік.*

**165.** Прачытайце. Што новага вы даведаліся пра корань слова?

Як і ў дрэва, у кожнага слова ёсць корань. З яго і «вырастаюць» аднакаранёвыя словы.

Параўнайце:

*зімой* — у час зімы,
*зімовы* — які бывае зімой,
*зазімак* — пачатак зімы,
*узімку* — у час зімы.

Гэтыя словы аб'ядноўвае ў адну групу корань ***-зім-***.





**Корань** — агульная частка аднакаранёвых слоў з адным і тым жа значэннем.

Выпішыце словы, што змешчаны на малюнку, і абазначце ў іх корань.

Назавіце галосныя гукі, якія чаргуюцца ў корані гэтых слоў.



### Як знайсці корань у слове

Каб знайсці корань, напрыклад, у слове *завязка*, патрэбна разважаць так.

Падбіраю да гэтага слова аднакаранёвыя словы: *вязаць, развязаць, перавязаць, падвязаць*. Выдзяляю агульную частку ***-вяз-***. Гэта і ёсць корань слова *завязка*. Абазначаю яго значком ⌒ : *завязка*.

**166.** Прачытайце. Ці ёсць у гэтым тэксце роднасныя словы?

**ЖАРТ**

— Вы хто такія?
— Я слон, гэта сланіха, а гэта наш слонік.
— А ты хто?
— Я слонка[зн], ваша цётка.

Янка назваў словы *слон, сланіха, слонік, слонка*.

Сцёпка сказаў, што слова *слонка* роднасным не з'яўляецца.

Марынка запярэчыла: «Слонка ж сама сказала, што яна цётка. Значыць, слова роднаснае».

● Хто вызначыў правільна? Дакажыце гэта.

У з о р: *ваза і вазон.*

Ваза — пасудзіна для кветак. Аднакаранёвыя словы: *вазачка, вазавы.*

Вазон — дэкаратыўная пакаёвая расліна. Аднакаранёвае слова: *вазонны.*

У словах *ваза* і *вазон* розныя карані. Значыць, гэтыя словы не з'яўляюцца роднаснымі.

**167.** Прачытайце словы.

Мяцеліца, падснежнік, чарніцы.

Растлумачце (вусна), чаму так названы прадметы.

Якая частка слова дапамагае растлумачыць назву прадмета?

● З адным словам (на выбар) складзіце і запішыце апавядальны і пытальны сказы.

**168.** Прачытайце словы. Колькі груп аднакаранёвых слоў пад кожным нумарам?

1. Вада, вадзяністы, праваднік, паводка, вадзіць, падводны, вадзянік, павадок.

2. Гара, гора, гаравацЬ, узгорак, падгарэлы, гаротнік, загар, гарысты, гарэць.

З кожнай падборкі выпішыце адну групу аднакаранёвых слоў. Абазначце ў іх корань.



**169.** Складзіце сказы з прыведзеных слоў і запішыце.

вёска, каля, наша, стаіць, лесу
дзецям, звяроў, ляснік, пра, расказвае, часта
дзеці, жыхароў, вясковыя, любяць, лясных

Выпішыце асобнымі групамі аднакаранёвыя словы. Абазначце ў іх корань і канчатак.

## Падбор аднакаранёвых слоў

**170.** Прачытайце і вызначце асноўную думку.

І гэты край,
дзе нарадзіўся, *рос*,
дзе днее, вечарэе і світае,
усё —
ад зор далёкіх і да *рос* —
твая Радзіма,
родная, святая.

*Р. Барадулін*



Ці з’яўляюцца аднакаранёвымі выдзеленыя словы? Чаму?

Да кожнага з гэтых слоў падбярыце і запішыце па два аднакаранёвыя словы. Абазначце ў іх корань.

**171.** Паводле прыведзеных значэнняў падбярыце і запішыце аднакаранёвыя словы з наступнымі каранямі. Абазначце іх.

*-вар-*

Той, хто гатуе стравы, — ... .
Ягады, звараныя з цукрам, — ... .
Вараныя піражкі з ягадамі, тварагом — ... .

*-асін-*

Маленькая асіна — ... .
Грыб, што расце пад асінай, — ... .
Лес, дзе растуць маладыя асіны, — ... .

**172.** Складзіце тэкст на тэму «Што расказвае пра сябе назва месяца?» (пра адзін месяц на выбар).

1. Што адбываецца ў прыродзе ў гэты месяц?
2. Што дапамагае высветліць сэнс назвы месяца?
3. Чым памятны для мяне гэты месяц?

*сакавік*
*красавік*
*жнівень*
*верасень*
*лістапад*
*снежань*

**173.** Да кожнага слова падбярыце аднакаранёвыя словы ў наступным парадку: слова са значэннем прадмета, прыметы, дзеяння.

Сад — ..., ..., ... .
Лянота — ..., ..., ... .
Ігра — ..., ..., ... .
Мароз — ..., ..., ... .



**174.** Прачытайце.

*Чароўнай* музыкай сагрэты,
як песня *родная* ці казка,
як зоркі *ясныя* над светам,
два *шчырых* словы «калі ласка».
*П. Броўка*

Выпішыце выдзеленыя словы са значэннем прыметы. Да кожнага з іх падбярыце і запішыце па два аднакаранёвыя словы. Абазначце ў іх корань і канчатак.

## Напісанне галосных і зычных у карані слова

**175.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

За в..скай, пры лесе, раней было бал..та. Пасярод яго прац..каў ручай, які ўпадаў у Нёман. Бал..та асушылі. А праз ручай дзеці паклалі ш..сць ж..рдак, каб і бабулі-ягадніцы см..ла маглі пераходзіць на другі бераг *(Газета «Раніца»)*.

**176.** Прачытайце прыказкі. Спішыце і растлумачце напісанне выдзеленых літар.

1. Любі Радзіму, любі ма**ц**і — і не будзеш гора зна**ц**і. 2. Цяжка таму жыць, хто ад працы бяжыць.

3. Не той харо**ш**, хто тварам прыго**ж**, а той, хто да справы го**ж**.

**177.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы ў словы адпаведныя літары. Растлумачце іх напісанне.

1. Пасадзіш ля рэчкі бяро*(з/с)*ку, і стане крыні*(ц/ч)*цы ля*(х/г)*чэй. 2. Паклон табе самы ні*(з/с)*кі, мой край залацістых бароў. 3. Калодзе*(ш/ж)* быў неглыбокі, з пя*(с/ш)*чаным дном.

**пясча́ны**

**178.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. У дужках запішыце праверачныя словы і абазначце ў іх корань.

1. Без но.. (...), а бяжыць, гола.. (...) не чалавечы, а гамоніць. 2. Туды адвё.. (...), сюды прывё.. (...), цягну або.. (...) на сто калё.. (...). 3. На гра..цы (...) — доўгі і зялёны, а ў бо..цы (...) — жоўты і салёны.

**179.** Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх сэнс? Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. З кім па гры..кі, з тым і па яга..кі. 2. Сало..кая яга..ка, ды ні..ка расце. 3. Лё..ка пасварыцца, ця..ка памірыцца. 4. Родная з..мля м..кчэй чужой п..рыны. 5. Не толькі ад м..розу твар ч..рванее.

## Прыстаўка як частка слова

**180.** Разгледзьце малюнкі. Чым яны адрозніваюцца? Які сказ якому малюнку адпавядае: *Матылёк паляцеў. Матылёк прыляцеў.*




Растлумачце значэнне слоў *прыляцеў* і *паляцеў.*



- Якая частка гэтых слоў адрознівае іх па значэнні?
- Дзе ў словах стаіць гэта частка?

*пры-*
*па-*



Частка асновы, якая стаіць перад коранем, называецца **прыстаўкай.**

Прыстаўкі служаць для ўтварэння слоў: *несці — занесці, прынесці, перанесці, паднесці, данесці, разнесці, пранесці; мудры — прамудры; зялёнкі — падзялёнкі.*

Прыстаўка абазначаецца знакам ⌐.

**181.** Прачытайце.

Да яліны, да сасны
доктар *прыляцеў* лясны.
*Палячыў* сасну, яліну
і высокі бор пакінуў.
*Паляцеў* у той лясок,
дзе бярозавы піў сок.

*В. Жуковіч*

*ляцець*
*лятýчка*[зн]
*лячыць*
*лячэбніца*

Параўнайце выдзеленыя словы са словамі справа, назавіце корань і прыстаўку ў словах з верша.



### Як знайсці ў слове прыстаўку

Каб знайсці прыстаўку, напрыклад, у слове *папраўкі*, разважай так.

Падбіраю да гэтага слова аднакаранёвыя з іншымі прыстаўкамі і без прыставак: *папраўкі*, *правіць*, *выправіць*, *пераправіць*, *праўка*. Параўноўваю гэтыя аднакаранёвыя словы і такім спосабам выдзяляю корань *-праў-* (*-прав-*).

Прыстаўка — гэта частка слова, якая стаіць перад коранем. Значыць, у слове *папраўкі* прыстаўка ***па-***. Абазначаю прыстаўку знакам ⌐ : *папраўкі*.

**182.** Прачытайце. У выдзеленых словах назавіце прыстаўкі.

Алёнцы год і дзевяць месяцаў.

Але яна ўжо вялікая дзяўчынка. Лічыць жа трэба не па **ўзросце**, а па тым, што ты паспеў **зрабіць**. А яна ўжо чалавек. Навучылася **выказвацца**, і сваякі яе разумеюць.

І самае галоўнае: варта каму-небудзь зрабіць **выгляд**, што ён **замахваецца** на ката, сабаку альбо чалавека, — і адразу гучыць **умольны** віск:

— І цеба.

Гэта значыць «не трэба».

Значыць, галоўнае, з чаго **складаецца** чалавек, ужо ёсць *(Паводле У. Караткевіча)*.



Як вы разумееце выраз *Галоўнае, з чаго складаецца чалавек, ужо ёсць*?

**183.** Да прапанаваных слоў запішыце словы без прыставак паводле ўзору.

Узор: *паляцець — ляцець.*

Адбегчы, азнаёміць, беззаконна, данесці, завучыць, зверыць, намераць, паліць.



Як утвараюцца словы пры дапамозе прыставак?

**184.** Да прыведзеных слоў падбярыце і запішыце аднакаранёвыя, процілеглыя па значэнні (антонімы). Абазначце ў словах прыстаўку.

У з о р: *прыбегчы — пабегчы.*

прывезці — ... увайсці — ...
завязаць — ... прыкруціць — ...
запрагаць — ... прывязаць — ...



**185.** Прачытайце. Спішыце. Вызначце, якія словы маюць прыстаўкі. Абазначце іх.

Той дзень прапаў і страчаны навекі,
калі ты не зрабіў таго, што мог;
калі не паспрыяў ты чалавеку,
няшчыры быў, зманіў, не дапамог.

*П. Панчанка*

**186.** Дадайце да слоў, што ў цэнтры, прыстаўкі і ўтварыце аднакаранёвыя словы (па варыянтах). Абазначце прыстаўкі.







З двума словамі-антонімамі складзіце і запішыце сказы.

**187.** Прачытайце. Выпішыце словы, якія маюць прыстаўку, корань і канчатак. Да кожнага з іх падбярыце і запішыце па два аднакаранёвыя словы з іншымі прыстаўкамі.

Загадка, задума, зайка, навука, спі́на, выхад, вышыня.

**188.** Разгледзьце малюнак і адкажыце на пытанні. Адказы запішыце. Падкрэсліце словы з прыстаўкамі.



1. Якая пара года паказана на малюнку?
2. Дзе працуе клас?
3. Што робяць дзеці?
4. Што ў руках дзяўчынак?
5. Чым займаюцца хлопчыкі?

**189.** Прачытайце. Пра якую пару года піша паэт? Па чым вы гэта вызначылі? Спішыце. Абазначце прыстаўкі ў словах.

Замірае, сціхае мая залатая дуброва,
асыпае, скідае на дол свой задумлівы ўбор.
*Н. Гілевіч*



**190.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Знайдзіце словы з прыстаўкамі. Абазначце іх.

Хораша і пр..гожа ў зімовым лесе. На пал..нцы застылі ў сваіх празрыстых і лё..кіх сукенках маладыя бяро..кі. Холадна стройным прыг..жуням. Выгл..ду не паказваюць. Маладыя елачкі і сосны апрануліся ў б..люткія шалі *(Я. Галубовіч)*.

## Ужыванне ў мове слоў з прыстаўкамі

**191.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Спішыце. У выдзеленых словах абазначце прыстаўкі.

Працаўніца шчыравала,
мех арэхаў *назбірала*,
і грыбоў шмат *насушыла*,
спелых шышак *нанасіла*,
*прыхавала* ўсё ў дупло,
каб на стол зімой лягло.
*М. Пазнякоў*

*збірала*
*сушыла*
*насіла*
*хавала*

Параўнайце выдзеленыя ў тэксце словы са словамі ў слупку. Чаму аўтар выкарыстаў словы з прыстаўкамі ***на-, пры-***?

**192.** Прачытайце пары слоў. Назавіце прыстаўкі. Ці ёсць розніца ў значэнні гэтых слоў?

Выехаць — заехаць, патрымаць — падтрымаць, сказаць — адказаць.

Вусна складзіце з гэтымі словамі сказы.

**193.** Прачытайце. Вызначце тэму верша і дайце яму загаловак.

Усхадзілася,
закружылася,
поле ўкрыла
лёгкім пухам,
засваволіла,
заскуголіла,
застагнала
завіруха.

*А. Дзяржынскі*

Спішыце. Абазначце ў словах са значэннем дзеяння прыстаўкі.



- Што апісвае аўтар: пачатак ці заканчэнне завірухі?
- Па чым вы гэта вызначылі?

**194.** Прачытайце. Якую прыстаўку неабходна далучыць да выдзеленых слоў, каб яны мелі значэнне пачатку дзеяння?

Зімняе сонейка рэдка бывае яркім. Але калі яно **..ззяе** — прыгожа **..іскрыцца** пад яго праменямі снег. Ён **..гарыцца, ..йграе** ўвесь дарагімі дыяме́нтамі[зн]. І так хараша і прыгожа тады становіцца на душы, так радасна!

Спішыце, далучыўшы да слоў прыстаўкі.



**195.** Прачытайце. Пры дапамозе адной з прыставак, што ў дужках, утварыце слова, якое адпавядае сэнсу сказа. Запішыце тэкст.

Вавёрка скокнула на снег і *(па-/вы-)*бегла да куста арэшніку. *(Аб-/пад-)*бегла яго вакол і *(аб-/па-)*скакала да маладой рабінкі. *(С-/пры-)*пынілася каля яе і пачала *(пера-/раз-)*грабаць снег. Хутка дастала арэх, *(ад-/рас-)*калола яго і *(з-/пад-)*'ела *(Паводле З. Бяспалага)*.

**196.** Прачытайце смяшынку. Спішыце і выкарыстайце слова з такой прыстаўкай, каб яно адпавядала сэнсу сказа. Растлумачце свой выбар.

Дзеці *(вы/а)*глядаюць звярынец.

Настаўніца. Дзеці! Хто *(с/вы)*кажа, чаму ў льва такая вялікая галава?

Дзеці. Каб не *(вы/у)*лез з клеткі *(Часопіс «Вясёлка»)*.

**197.** Прачытайце. Вызначце, з якімі прыстаўкамі могуць ужывацца дзеясловы ў спалучэнні з прыведзенымі словамі. Назавіце магчымыя спалучэнні.

*(ад/з/пера)*даць экзамен
*(ад/вы/раз)*даць кнігу
*(аб/за/пад)*вязаць вузел

**198.** Прачытайце паданне. Спішыце сказы, у якіх неабходна ўжыць словы з такой прыстаўкай, каб яны адпавядалі сэнсу сказа.

Нёман аднойчы *(ад-/вы-/с-)*казаў Лошы:

— Волі захацелася, буду *(вы-/пра-)*біvацца да мора.

Нічога не *(пад-/ад)*казала Лоша. А сама надумалася навыперадкі з Нёманам бегчы, каб першай выскачыць да мора.

Прачнуўся Нёман, *(па-/у-)*бачыў, што Лошы няма. Кінуўся наўздагон, не разбіраючы дарогі, напрасткі.

З таго часу ён так і ляціць, паспяшае да мора, магутны і шырокі. А Лоша плыве ціха, хаваючыся па кустах і нізінах.

навы́перадкі
напрасткі́
наўздаго́н

**✷ 199.** Прачытайце. Які загаловак можна даць гэтаму тэксту?

Вечар быў ціхі, ..ветраны на зямлю паціху клаліся ..цемкі на дарожцы ..чуўся стук капытоў ля градкі з морквай я ..бачыў маладзенькую казулю выйшаў на двор і пляснуў у ладкі казуля ..скочыла і сіганула з гародчыка *(Паводле Я. Галубовіча)*.

Спішыце, падзяляючы тэкст на сказы. Упішыце замест кропак патрэбныя прыстаўкі.



**200.** Спішыце. Устаўце словы з коранем ***-нес- (-нёс-)*** і прыстаўкай, якая адпавядае сэнсу сказа.

1. Бацька ... Лёніку новы каляровы буквар. 2. Маці ўзяла дзяўчынку на рукі і ... . 3. Андрэй папрасіў Міколку ... яго партфель. 4. Праграму канцэрта склалі вучні, і яны могуць ... ў яе неабходныя папраўкі.

Словы для даведкі: *паднесці, прынёс, унесці, панесла.*

## Правапіс прыставак *аб-, ад-, над-, пад-*

**201.** Спішыце парамі словы, якія называюць дзеянні, і абазначце ў іх прыстаўкі.

[ад] [ат]
адбушавалі завеі — адпусцілі маразы
[аб] [ап]
абвясціць перапынак — абкапаць дрэвы
[над] [нат]
надбудаваць дах — надпісаць канверт
[пад] [пат]
падбадзёрыць сяброў — падтрымаць сяброў

Выразна вымавіце словы кожнай пары і вызначце, ці ёсць розніца ў вымаўленні прыставак ***аб-, ад-, над-, пад-*** у гэтых словах. А ці ёсць розніца ў напісанні?



Прыстаўкі ***аб-, ад-, над-, пад-*** пішуцца заўсёды нязменна.

**202.** Прачытайце радкі з верша М. Шаховіча «Лён». Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.



А..рунеў маладым аксамі́там[зн],
а..палаў у полі блакітам,
летняй спеласцю а..звінеў,
палатном ля ракі а..бялеў.

Як вы разумееце выраз *адпалаў у полі блакітам*?

**203.** Прачытайце. Да выдзеленых частак слоў падбярыце такую прыстаўку, каб утварыць слова, якое адпавядае сэнсу сказа. Растлумачце свой выбар.

*аб-*
*ад-*
*пад-*

— Пачастуй свайго сябра грушамі, — сказала Марыля сыну. Лёня працягнуў сябру самую маленькую. Сева **..мовіўся**, не ўзяў грушу.

Марыля **..ышла** да кошыка, выбрала дзве вялікія грушы і падала хлопчыку.

З Марыліных рук Сева грушы ўзяў, але не еў іх. А калі **..ыходзіў**, непрыкметна паклаў іх на стол.

— Нядобра, сынок, ты **..ышоўся** са сваім сябрам, — пакруціла галавой Марыля *(Паводле А. Пальчэўскага).*



- Чаму Сева не ўзяў грушу ў Лёні?
- Чаму з Марыліных рук хлопчык узяў грушы, але непрыкметна паклаў іх на стол?
- Як бы вы паступілі на месцы Лёні і Севы?
- Каго, на вашу думку, можна лічыць сапраўдным сябрам?



**204.** Прачытайце казку. Чаму яна мае такую назву?

ГУРТАМ ЛЁГКА

А..любаваў вожык норку пад пнём. Стаў лісты ў домік насіць. Стаміўся, сеў а..пачыць. Па..няў маркотныя вочы і ўбачыў двух драздоў. Дразды заўважылі яго стому. Па..ляцелі на падмогу. А..шукаюць сухі лісток, па..бяруць і ў домік нясуць.

Надышоў вечар. Падзякаваў вожык сваім памочнікам і лёг на мяккую пасцельку *(Паводле Я. Галубовіча).*

Спішыце першы абзац. Устаўце ў словы прапушчаныя літары і абазначце прыстаўкі.

## Правапіс прыставак, якія заканчваюцца на *з-* (*с-*)

**205.** Прачытайце.

| | |
|---|---|
| *з-* | *с-* |
| *уз-* | *ус-* |
| *раз-* | *рас-* |
| *без-* | *бес-* |
| *бяз-* | *бяс-* |

Нехаця лес **развітваецца** з летам. **Скурчыліся** кветкі. Пажаўцелі бярозкі. **Скінула** лісце ліпа. **Згараюць** у асеннім **развітанні** асінкі і клёны.

Выпішыце выдзеленыя словы, абазначце ў іх прыстаўку.



З якой літарай, ***з*** ці ***с***, пішуцца прыстаўкі, калі корань слова пачынаецца звонкім зычным гукам? Глухім зычным?



Перад звонкімі зычнымі пішуцца прыстаўкі ***з-***, ***уз-***, ***раз-***, ***без-***, ***бяз-***; перад глухімі — прыстаўкі ***с-***, ***ус-***, ***рас-***, ***бес-***, ***бяс-***: ***з***біраць, ***уз***німаць, ***раз***біраць, ***без***бароды, ***бяз***мерны; ***с***хіліць, ***ус***ходні, ***рас***пісаны, ***бес***карысны, ***бяс***хмарны.

**206.** Прачытайце. Які гук, [з] ці [с], вы вымаўляеце ў прыстаўках выдзеленых слоў? Ад чаго залежыць іх вымаўленне?

Мы з сябрам увайшлі ў лес і **..пыніліся.** Глядзім: пад ялінаю густа **ра..сыпана** луска яловых шышак.

— Паснедала вавёрка і недзе **бе..клапотна** адпачывае, — кажу жартуючы.

**У..няўшы** галовы, **ра..ышліся** шукаць гняздо.

У леташнім гняздзе на хваіне ўбачылі рыжы клубочак.

— **Ра..будзім?** — пытаю.

Сябар пастукаў галінкаю па дрэве. Вавёрка **ў..кочыла** і пазірае на нас *(Паводле Я. Крамко)*.

**207.** Прачытайце словы і растлумачце правапіс выдзеленых літар.

А**д**каз, ра**з**мова, бе**с**клапотны, па**д**бегчы, у**з**вышша, а**б**мінуць, у**с**плеск, бя**сс**прэчны, **з**мена, бе**з**дапаможны, а**д**чуць.

З трыма словамі (на выбар) складзіце і запішыце сказы.

**208.** Прачытайце. Растлумачце сэнс загалоўка.

### АБЕД ПАД СНЕГАМ

Ціха ў забалочаным хвойніку. Каля яліны ліса снег **ра..грабае.** Прыгнецца крыху, **а..пачне** і зноў завіхаецца. Дык вось яно што! Мышэй з-пад снегу дастае — мільганула думка.

Прысеў. Пад лыжамі снег заскрыпеў. Лісу як ветрам **..дзьмула. Па..’ехаў** да яліны і **..разумеў,** што памыліўся. Пад **ра..капаным** снегам на дробных кусціках чырванелі журавіны.

Падумаў: не бяда. **А..'еду** з хвойніку, зноў вернецца да журавін *(Паводле Я. Галубовіча)*.

Выпішыце сказы з выдзеленымі словамі. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх напісанне.

**209.** Прачытайце. Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары і абазначце прыстаўкі.

Ра..гоніста гойсае над у..лескам вецер. Сярод ра..кудлачаных хмар плыве месяц. Бе..упынку ідзе снег. Бя..ладна мітусяцца сняжынкі. А вожыку хоць бы што ў цёплай пасцельцы. Дрэмле і ў..памінае лета з сонейкам на небе *(Паводле Я. Галубовіча)*.

- У першых двух сказах падкрэсліце аснову.

## Перанос слоў з прыстаўкамі

**210.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх. Выпішыце ў слупок выдзеленыя словы. Абазначце ў іх прыстаўку і корань. Затым запішыце гэтыя словы ў другі слупок і падзяліце іх для пераносу.

1. Не дом, але з акенцамі,  
не птах, а крылы мае.  
Як *разбяжыцца* па зямлі —  
высока ў неба *ўзлятае*.  
*В. Жуковіч*

2. Жаданы госць яна *заўсёды*
на палетках нашых.
*Зацвіце* — *адорыць* мёдам.
*Адцвіце* — блінамі, кашай.

*М. Пазнякоў*



Пры пераносе слоў з прыстаўкамі можна аддзяляць зычную літару ад прыстаўкі і далучаць да кораня ці аддзяляць зычную ад кораня і далучаць яе да прыстаўкі, напрыклад: ***ад-цвіце, адц-віце; ра-скрыць, рас-крыць, раск-рыць.***

Літары ***й, ў*** і апостраф пры пераносе не аддзяляюцца ад папярэдняй літары: ***прый-шоў, заў-важыць, раз'-яднаць.***

Праверце, ці правільна вы падзялілі выдзеленыя ў загадках словы для пераносу.

**211.** Прачытайце. Запішыце выдзеленыя словы, падзяліўшы іх для пераносу.

Аднойчы раніцай я **выйшаў** з дому і падаўся ў лес.

У хмызняку ўбачыў зайца-русака. Я спыніўся. А заяц **паставіў** лупатыя вочы, нібы хацеў спытаць, хто **запрашаў** мяне сюды. Потым **падскочыў**

і сігануў праз жыта ў бярэзнік *(Паводле Я. Галубовіча).*

● Да слова *паставіў* падбярыце аднакаранёвыя словы з прыстаўкамі, якія заканчваюцца на ***б-, д-, с-***. Запішыце іх, падзяляючы для пераносу.

**212.** Прачытайце. Спішыце. Словы з прыстаўкамі падзяліце для пераносу.

Студзень. Ускінуў я на плечы рукзак і падаўся ў лес. У асінніку сустрэў сахатага, двух зайцоў, лясную козачку, убачыў шуструю вавёрку. Стаміўся і прысеў на пянёк. Але адразу падхапіўся: на суседнім ліпавым пяньку грудзіліся апенькі. Я патрапіў на зімовыя апенькі *(Паводле Я. Галубовіча).*

**сусе́дні**



**213.** Прачытайце. Спішыце тры сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Выдзеленыя словы пры спісванні падзяліце для пераносу.

Пра лес дзед Міхась **заўсёды ра..казваў** як пра **свайго** лепшага сябра. Дзед навучыў унука бачыць і а..чуваць хараство лесу.

Вясной бяро..кі **ра..плятаюць** свае **доўгія** з..лёныя косы. Тады яны здаюцца хлопчыку русалкамі з дзедавай ка..кі *(Паводле Я. Бяганскай).*

● Да слоў *бяро..кі* і *ка..кі* запішыце праверачныя словы.

## Апостраф у словах з прыстаўкамі

**214.** Прачытайце словы працяжна і выразна.

Зямля — з’ява      абед — аб’езд



- У якіх словах ёсць прыстаўкі?
- На галосны ці зычны гук заканчваюцца прыстаўкі?
- У якіх словах чуецца гук [й’]?
- Перад якімі літарамі стаіць апостраф?



Апостраф пішацца пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычны гук, перад літарамі ***е, ё, ю, я, і.***

Гэтыя літары абазначаюць два гукі: з’[й’э]сці, пад’[й’о]м, раз’[й’у]шаны, аб’[й’а]ва, з’[й’і]нелы.

**215.** Прачытайце словы. Якая асаблівасць вымаўлення слоў з апострафам?

Абедаць, абедзенны, аб’едзены, з’есці, паесці.
Аб’яднаць, паяднаць, **заязджаць, з’язджаць.**
**Раз’ясніцца**, **пад’ём**, праясніцца, раз’юшаны.

Растлумачце напісанне апострафа пасля прыставак. З выдзеленымі словамі складзіце і запішыце сказы.

**216.** Ад слова *ехаць* утварыце пры дапамозе прыставак іншыя словы. Спалучыце іх паводле сэнсу са словамі для даведкі і запішыце.




**Для даведкі:**
*да возера*
*да сяброў*
*з гары*
*лужу*
*раку*
*раніцай*

Прачытайце словы з апострафам і растлумачце яго напісанне.

**217.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Як вы разумееце іх сэнс?

1. Паносіш мазалёў — пад’ясі хлеба.
2. Арэх не раскусіш — зерня не з’ясі.
3. За што бярэшся — канца даб’ешся.
4. Вераб’і крупы з’елі, а сініца ў клетку папалася.

Спішыце. Растлумачце напісанне апострафа.



**218.** З дапамогай прапанаваных прыставак утварыце такія словы, якія пішуцца з апострафам. Запішыце іх у тры слупкі.

| | | |
|---|---|---|
| ***аб’-*** | ***з’-*** | ***пад’-*** |

## Падваенне зычных на стыку прыстаўкі і кораня

**219.** Прачытайце пары слоў. Спішыце. Абазначце прыстаўку і корань.

Аддаленне — адбелка, бяззубы — бязвусы, падсыпка — паддубовік, бессістэмны — беспарадак.



Чаму ў некаторых словах пішуцца падвоеныя зычныя літары?



Калі зычныя гукі на канцы прыстаўкі і ў пачатку кораня аднолькавыя, то яны падвойваюцца і на пісьме перадаюцца дзвюма літарамі.

**220.** Прачытайце. Спішыце, падбіраючы адпаведныя па сэнсе прыстаўкі.

***да-, вы-, пера-***

..бегчы да берага — ..бегчы на вуліцу — ..бегчы дарогу;

***пры-, за-, аб-***

..несці да хаты — ..несці ў хату — ..несці вакол хаты;

***пера-, рас-, ад-***

напісаць ..каз — ..казаць праўду — даць ..каз.

✷ **221.** Прачытайце пары слоў. Ці ёсць розніца ў іх значэнні? Растлумачце напісанне падвоеных зычных літар.

Падаць — паддаць, рассадзіць — пасадзіць, аббегаць — абегаць, уссадзіць — усадзіць.

Са словамі першых дзвюх пар складзіце і запішыце сказы.

**222.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

1. Сее, сее, ра..сявае, зімой сляды замятае. 2. Удзень а..пачывае, а ўначы лятае. 3. Што ра..маўляе на ўсіх мовах? 4. Маленькі, гарбаценькі, а ўсё поле а..бегаў.



**223.** Прачытайце. Спішыце і ўстаўце, дзе патрэбна, прапушчаныя літары.

1. Высока ў небе ра..сыпаліся мігатлівыя зоркі. 2. Юрка не па..даўся на ўгаворы пайсці гуляць. 3. Зубр пастаяў і па..даўся далей у пушчу. 4. Апошні раз ра..ступіўся лес. 5. Перад вачамі ра..скрылася шырокая паляна.

## Напісанне прыставак і прыназоўнікаў

**224.** Прачытайце.

Многія грыбы маюць «пашпарты» і прыпісаны ў лясах да сваіх любімых мясцін і дрэў. *Пад* бя-

розамі растуць *падбярозавікі*, *пад* асінамі — *падасінавікі*, *пад* дубамі — *паддубовікі*.



- У якіх выдзеленых словах ***пад*** з'яўляецца часткай слова? Як называецца гэта частка слова і як яна пішацца?
- Як пішацца ***пад***, калі з'яўляецца асобным словам (прыназоўнікам)?



Прыстаўкі трэба адрозніваць ад прыназоўнікаў.

**Прыстаўка** — гэта частка слова. Яна пішацца разам са словам: *пабегчы, прыбегчы, забегчы, аббегчы*.

**Прыназоўнік** — гэта слова. Ён з іншымі словамі пішацца асобна. Паміж прыназоўнікам і наступным словам можна ўставіць пытанне ці якое-небудзь слова: *пад* (ч ы м?) *бярозамі*, *пад (маладымі) бярозамі*.

**225.** Прачытайце па асобах.

ДЗЯЦЕЛ І ЦЕЦЯРУК



— Добры дзень, Цецярук! *(З)* учарашняга дня не бачыліся. Дзе лётаў? Дзе спаў?

— Лётаў я «над», спаў «пад».

— Што гэта за рэбус такі: то «над», то «пад»?

— Гэта не рэбус, а снег. Лётаў *(над)* снегам, спаў *(пад)* снегам.

— Бач, якое ў цябе жыццё развясёлае. А я, гаротнік, усё «ў» ды «ў». Лётаю *(ў)* лесе, сплю *(ў)* елках, начую *(ў)* дупле *(М. Сладкоў)*.



Словы ў дужках — прыстаўкі ці прыназоўнікі? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Спішыце сказы з гэтымі словамі, раскрываючы дужкі.

**226.** Да слоў, якія абазначаюць дзеянні, падбярыце словы — назвы прадметаў з прыназоўнікамі. Запішыце паводле ўзору.

У з о р: *заехаць за дом.*

Ад’ехаць … …, выехаць … …, даехаць … …, з’ехаць … …, пад’ехаць … …, паехаць … …, пераехаць … … .

● Растлумачце напісанне апострафа.

Паспрабуйце апусціць у запісаных спалучэннях слоў прыназоўнікі. Ці магчыма звязаць гэтыя словы па сэнсе без прыназоўнікаў?



**Прыназоўнікі служаць для сувязі слоў у словазлучэннях і сказах.**

**227.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Як вы разумееце іх сэнс?

1. Добрае слова *(да)* сэрца *(да)* ходзіць. 2. Праца і *(на)* корміць, і *(на)* вучыць. 3. Шчасце таму бывае, хто *(у)* працы і *(у)* вучэнні розуму *(на)* бывае. 4. Узяўся *(за)* справу, *(да)* водзь яе (да) канца.

Спішыце, раскрываючы дужкі. Выдзеліце прыстаўкі, падкрэсліце прыназоўнікі.

**228.** Прачытайце. Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне слоў.

1. Кпіла пляма *(з)* мыла: ты мяне не *(з)* мыла *(часопіс «Вожык»)*. 2. На лыжах мы хадзілі *(у)* бор: які ў яго прыгожы *(у)* бор!

**229.** Складзіце са слоў сказы, замяняючы малюнкі словамі. Запішыце сказы. Падкрэсліце прыназоўнікі.

1) вострай, па, барабаніў, дзюбай, дрэве
2) падалі, зямлю, ціха, на, першыя
3) у, быў, прыгожы, Алёнкі, пушысты
4) ляжыць, стале, на

   



**230.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы патрэбныя прыназоўнікі.

Той, хто марыць ... будучым стаць касманаўтам, павінен моцна сябраваць ... фізічнай культурай і спортам. Хадзіць ... лыжах, гуляць ... валейбол і футбол, скакаць ... даўжыню і вышыню.

Рм **231.** Разгледзьце малюнак і раскажыце, што на ім адлюстравана. Дайце імёны хлопчыкам і дзяўчынкам і складзіце тэкст. Напішыце, якім выдаўся дзень пасля снегападу, чым займаюцца дзеці, які ў іх настрой.



Для даведкі: *раз'яснілася, сонечны, ясны, глыбокі, пад'ехаць, пад'ём, з'язджаць.*

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Аздо́біць** — надаць прыгожы выгляд, упрыгожыць.

**Акразага́дка** — верш, у якім пачатковыя літары вершаваных радкоў, прачытаныя зверху ўніз, утвараюць адгадку.

**Аксамі́т** — шаўковая тканіна з мяккім, гладкім і густым ворсам.

**Ба́рва** — густа-чырвоны, пурпуровы колер.

**Ба́цькаўшчына** — 1) для кожнага чалавека краіна, дзе ён нарадзіўся; 2) родны кут, месца, дзе чалавек нарадзіўся і вырас.

**Бурашты́навы** — празрыста-жоўты.

**Бяро́за** — лісцевае дрэва з белай карой.

**Гай** — невялікі, часцей лісцевы лес.

**Ганта́ль** — цвік, якім прыбіваюць гонты (дахавыя невялікія дошчачкі).

**Гантэ́ль** — ручны гімнастычны снарад у выглядзе двух шароў, злучаных кароткай рукаяткай.

**Ды́баць** — ісці мерна, ступою.

**Дыяме́нт** — вельмі каштоўны празрысты камень; брыльянт.

**За́гарадка** — агароджанае плотам месца для жывёлы.

**Зажу́раны** — сумны, маркотны.

**Звя́га** — нагавор, паклёп.

**Змо́ра** — стан зморанага чалавека, стома.

**Ква́дра** — фаза Месяца.

**Ква́ква** — птушка з кароткімі нагамі і чубком на галаве.

**Ква́кша** — дрэвавая жаба.

**Крамя́ны** — пругкі, цвёрды, сакавіты.

**Ліфт** — пад'ёмная машына з кабінай для перамяшчэння людзей у шматпавярховых дамах.

**Люфт** — зазор паміж часткамі машыны.

**Ляту́чка** — кароткая вытворчая нарада для вырашэння неадкладных пытанняў.

**Машасто́вы** — зроблены з мошасту (аксаміту).

**Натхнёна** — з творчым уздымам.

**О́рдар** — дакумент на атрыманне кватэры.

**Пага́на** — дрэнна, нядобра.

**Палымне́ць** — набываць колер полымя; вылучацца колерам полымя, яркай чырвонай афарбоўкай.

**Парка́н** — агароджа з бярвёнаў, штыкецін.

**По́плаў** — луг у пойме ракі.

**Пра́лля** — жанчына, якая займаецца прадзеннем.

**Разнатра́ўе** — розныя травы, якія растуць разам.

**Само́тны** — сумны, журботны.

**Сі́вер** — халодны паўночны пранізлівы вецер.

**Сло́нка** — лясная птушка з рудавата-бурым апярэннем; лясны кулік; вальдшнэп.

**Снава́ць** — рухацца ў розных кірунках, туды і сюды.

**Со́пка** — невысокая гара круглаватай формы.

**Трысцё** — вадзяныя ці балотныя шматгадовыя расліны.

**Чу́йны** — 1) які звяртае пільную ўвагу, здольны тонка адчуваць; 2) які востра перажывае што-небудзь, рэагуе на што-небудзь; 3) асцярожны; 4) неглыбокі, чуткі.

**Экспане́нт** — асоба ці арганізацыя, якая выстаўляе ў музеі або на выстаўцы свае экспанаты (прадметы для агляду).

# АРФАГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

абысці́
адцвіта́ць
адысці́
арэ́шнік
буйны́
бутэрбро́д
верабе́й
во́ўна
во́сеньскі
вы́йсці
гарадскі́
гліня́ны
дзве
дзяўбці́
драўля́ны
звіне́ць
зімаро́дак
знішча́ць
каляnда́р
камба́йнер
камп’ю́тар
крышта́льны
людскі́
мело́дыя
навы́перадкі
надысці́
наперagóнкі
напрадве́сні
напрасткі́
натхнёны
наўздаго́н
о́рдар
павява́ць
падысці́
пала́ць
пясча́ны
саламя́ны
самацве́ты
сардэ́чны
святкава́ць
сусе́дні
усміха́цца
флама́стар
цвісці́
цвіце́нне
цыко́рыя
штого́д
штодзе́нь

## АДГАДКІ, ПАДКАЗКІ

| *Нумар практ.* | |
|---|---|
| 87 | Сон, мокрую, дзятла, калодзежны, хвойнымі і вожыкавымі. |
| 95 | Агонь, гарбуз, яблык, вожык. |
| 120 | Хмары, месяц. |
| 122 | Бяроза. |
| 142 | Дзяцел, рамонкі, парасон, іголка з ніткай. |
| 171 | Повар, варэнне, варэнікі; асінка, падасінавік, асіннік. |
| 178 | Ручаёк, электравоз, агурок. |
| 191 | Вавёрка. |
| 210 | Самалёт, грэчка. |
| 222 | Мяцеліца, сава, рэха (радыё), серп. |

# З м е с т

